

БГКТ — 60 гадоў ➔ 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714





Ніве — 60 гадоў


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 10 (3121) Год LXI | Беласток, 6 сакавіка 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Марш!

❖ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

У канцы жніўня 2010 года ў гайнаўскім касцёле святых Кірылы і Мяфодзія, у суправаджэнні сцяганосцаў была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар маёра Зыгмунта Шындзеляжа «Лупашкі», камандзіра V Віленскай брыгады АК і яго падначаленых і Салдат выклятых, родам з Гайнаўскай зямлі, змагаючыхся за свабодную Польшчу. Напісана на ёй: «Aby widzieć, padając w ataku, Polskę wolną i czystą jak łza». Напярэдадні тадышніх урачыстасцей паявіліся плакаты «Kościół katolicki stawia pomniki mordercom prawosławnych», «Łupaszko — morderca!». У канцы лютага 2016 года прайшоў па вуліцах Гайнаўкі Марш памяці салдат праклятых. Ён меў быць у першую чаргу ў гонар капітана Рамуальда Райса «Бурага». Нягледзячы на аб'яву, імшы з гэтай нагоды не было.

Больш чым за месяц да суботы 27 лютага ў сацыяльных сетках Нацыянальна-радыкальнага лагера, Нацыянальнай Гайнаўкі і Гістарычнага таварыства імя Дануты Седзікоўны «Інкі» з'явілася аб'ява: «Лёгка маніфеставаць у гарадах, дзе ўлады і тыя ж мясцовыя жыхары ў асноўным спрыяльныя тэматыцы Салдат праклятых. Лёгка дзейнічаць у глыбінцы, дзе супольнасць досыць адукаваная ў гэтай тэме. Пакланенне памяці Нязломных у месцах, дзе камуністычная прапаганда працуе далей, патрабуе характару і адвагі, менавіта таму мы заклікаем усіх прыйсці на I Гайнаўскі марш памяці Салдат праклятых! Сваю прысутнасць на дэманстрацыі абвясцілі шматлікія дэлегацыі заўзятарска-нацыянальнага асяроддзя з усёй Польшчы. Таму мы, аб'яднаныя разам, давайце пакажамся ў Гайнаўцы, каб вярнуць належную памяць Праклятым». За тыдзень да параду ОНР выпускае дзясяткі ўлётак, якія заклікаюць да ўдзелу і хваліцца імі ў інтэрнэце. На ўлётках здымак «Бурага» ў форме побач з выючым ваўком. Тамаш Суліма, аўтар вэб-старонкі «Капітан Рамуальд Райс «Буры» — не мой герой» у адной з сацыяльных сетак выклікае гарачыя дэбаты. Аднойчы ён піша: «Прэзідэнт Анджэй Дуда адмовіўся ад патранату з-за вобразу «Бурага» ў атачэнні іншых Праклятых, затым арганізатары прыбралі з улётак... усю рэшту праклятай кампаніі».

За некалькі дзён да маршу, 15 лютага, на сайце Канцылярыя прэзідэнта Дуды з'явіўся запіс: «У сувязі з паведамленнямі сродкаў масавай інфармацыі пра тэму нібыта патранату Прэзідэнта РП над I Гайнаўскім маршам салдат праклятых, мы хацелі б паведаміць Вам пра тое, што Прэзідэнт РП не ўзяў патранату над гэтымі ўрачыстасцямі. Заяву на патранат у дадзеным выпадку арганізатары падалі 8 лютага. Сёння Канцылярыя Прэзідэнта Польскай Рэчы Паспалітай выразіла адмовіца ўзяць патранат кіраўніка дзяржавы над маршам у Гайнаўцы». Пад гэтай заявай на адной са старонак Канцылярыі некалькі дзён вісіць аб'ява Гайнаўскага маршу сярод больш за сто праектаў у краіне ў памяць салдат праклятых. Яшчэ даўжэй на адной з закладак сайта Канцылярыі спасылаліся на словы прэзідэнта з верасня мінулага года ў лісце на пахавальныя ўрачыстасці ахвяр камуністычнага тэрору, выяўленых у кватэры «Ł» на вайсковых могілках на Павонзках у Варшаве: «Польская дзяржава павінна шанаваць сваіх сапраўдных герояў: тых, якія былі паддадзены самаму складанаму выпрабаванню, але не склалі зброі, ды да канца добленса аказвалі супраціў ворагам Айчыны, не вагаючыся аддаць за яе сваё жыццё. Праўда аб подзвігу і трагедыі антыкамуністычнага падполля на самой справе з'яўляецца асновай суверэннай Рэчы Паспалітай». Прэзідэнт Інстытута нацыянальнай памяці **Лукаш Камінскі** лічыць рашэнне прэзідэнта аб адмове ўзяць на сябе патранат над маршам слушным:

— Райс не сімвалізуе Салдат праклятых.

Пробашч гайнаўскай парафіі св. Кірылы і Мяфодзія кс. **Зыгмунт Браніцкі** тры дні да маршу:

— Я не хачу каментаваць гэтай тэмы, мы не арганізатары. Але арганізатары маршу на гэты раз перабольшылі. У справе таблічы «Лупашкі» ў нашым касцёле было так, што гадоў пяць таму прыйшлі людзі прасіць Бога аб дапамозе, таму што хацелі ўвекавечыць яго, дык *proszę bardzo*. Так, як *proszę bardzo* іншым, якія хацелі ўвекавечыць сібіракоў з малітвай да Госпада Бога.




❖ ❖ ❖

16 лютага два члены ОНР перад прэзідэнцкім палацам даюць заяву:

— Выказваем свой моцны супраціў адносна адмаўлення ад патранату Прэзідэнта Польскай Рэчы Паспалітай Анджэя Дуды над I Гайнаўскім маршам Салдат праклятых. Ацэньваем вышэйшы жэст як форму фальсіфікацыі гістарычнай памяці, заўважаем таксама ўплыў сродкаў масавай інфармацыі, якія не хаваюць свайго антаганістычнага стаўлення да больш шырокага нацыянальнага руху. Мы лічым, што гэта ўдар па прынцыпах дэмакратычнай прававой дзяржавы, у якой абавязвае прынцып роўнасці грамадзян перад законам (...). Дзіўным з'яўляецца той факт, што прэзідэнт Анджэй Дуда, які выводзіцца з партыі Права і справядлівасць, вызначаючай сябе як патрыятычная і нават нацыяналістычная, гістарычныя ахвяры памяці прыносіць на алтар, каб дагадзіць левым колам.

Адзін з самых вядомых правых аглядальнікаў Цэзары Гмыз на сацыяльных сетках піша: «Хворы гэты розум, які вырашыў выкарыстоўваць патранат Прэзідэнта Рэчы Паспалітай, каб садзейнічаць «Бураму», што здзейсніў злачынствы ў дачыненні да дзяцей», а вядомая з ПіСаўскіх сімпатый, кіраўнік тэлекампаніі «Белсат» Агнешка Рамашэўская-Гузы пад гэтым запісам дадае: «Марш ОНР з фотаздымкамі «Бурага» па праваслаўнай у значнай ступені Гайнаўцы — гэта чыстая правакацыя». Ад яе аўтарызаваных слоў пачынаецца некалькі дзён раней справаздача ў дадатку «Вялікі фармат» да «Выбарчай газеты», прысвечаным пацыфікацыям Рамуальда Райса «Бурага»: «Буры» быў адважным салдатам, які здзейсніў цяжкае злачынства. Можна шкадаваць аб гэтым, але нельга пярэчыць». Абмеркаванне працягваецца ў інтэрнэце на многіх сайтах. На фейсбуку створана падзея «Марш? Не, дзякуйце». Яго творцы заклікаюць: «Давайце не паддавацца правакацыі СМІ. Чым менш старонніх асоб, тым меншы бляск. Я не прымаю ўслаўлення Рамуальда Райса «Бурага», якога здымак паказаны на інфармацыйным лістку аб Маршы, які ў гэтую суботу пройдзе па вуліцах Гайнаўкі. Я прашу Вас, каб нашу нязгоду для такой дзейнасці выявілі, не звяртаючы ўвагі на падзею». Інтэрнэт-карыстальнікі пішуць пад сподам: «Нельга паддаццa правакацыі». За тыдзень да паходу на слупах, аўтобусных прыпынках і будынках у цэнтры Гайнаўкі з'явіцца апавяшчэнне аб контрманіфестацыі на скверы пад управамі горада, гміны і павета — у той жа самы час, што і марш: «Мы ўшануем ахвяр «Бурага» і запратэстуем супраць маршу нацыяналістаў». Без подпісу. На трох прыпынках у напрамку Бельска-Падляшскага хтосьці спрэем вымалёўвае: «Bury morderca!», «Poleszuk k...». Narodowa Hajnówka публікуе фатаграфію ў інтэрнэце з пометкай: «Гэта называецца лявацкая дыскусія і логіка». ОНР Беласток прадае футболкі з выявай капітана Райса на грудзях. Цана 50 злотых. Сабраныя грошы будуць выкарыстаны для далейшых пасля гайнаўскага маршу акцый «odkłamujących fałszywy obraz jednego z najdzielniejszych Żołnierzy Wyklętych», значыць, «Бурага».

❖ ❖ ❖

28 студзеня Рада Гайнаўскага павета апавяшчае заяву ў памяць забітых. Радныя заяўляюць: «У цяперашні час мы назіраем дзейнні арганізаваныя нацыяналістычнымі асяроддзямі, накіраваныя на прадстаўленне, нягледзячы на відавочныя гістарычныя факты, злачынцаў як герояў польскага незалежніцкага падполля. Прыманне такіх дзеянняў абражае памяць нявінных ахвяр, і не праслаўляе ўсіх гэтых «праклятых салдат», якія не прымянялі актаў генацыду. Мы гаворым адкрыта: «Буры» — не наш герой! Апраўдванне дзеянняў, якія ў дадзеным выпадку не могуць быць апраўданымі, гэта не што іншае, як праслаўленне злачынства».

З прапановай аб прыняцці заявы выступае выразна лева настроеная 69-гадовая былая гайнаўская войт Вольга Рыгаровіч з камітэта Гайнаўская зямля. У пачатку снежня 2014 года прайграе яна выбары на пасаду старшыні павятовай рады з 68-гадовым Лехам Янам Міхаляком, адзіным у гэтай радзе прадстаўніком ПіС, якога падтрымала ПСЛ. За прыняццем заявы галасавала 15 членаў рады, двое ўстрымаліся, адзін быў супраць — старшыня. 1 лютага накіроўвае ён у беластоцкі аддзел ІНП свой запыт. Ён хоча, каб інстытут падрыхтаваў гістарычнае абмеркаванне датычнае заявы. Кіраўнік беластоцкага ІНП Барбара Баярын-Казбэрук, спасылаючыся на інфармацыю Варшаўскага вайсковага акружнага суда ад 15 верасня 1995 года аб адмене смяротнага прысуду, выдадзенага ў 1949 годзе на Рамуальда Райса і яго намесніка Казіміра Хмялеўскага «Рэкіна» і факт іх рэабілітацыі, таму што «дзейнічалі ў стане вышэйшай неабходнасці», і іншае меркаванне пракурора ІНП, адказвае, што «забойства вазакоў і пацыфікацыі вёсак у студзені і лютым 1946 года не можна атаясамліваць з барацьбой за незалежнае існаванне дзяржавы, паколькі гэта нясе ў сабе прыкметы генацыду». Абапіраючыся на меркаванне гісторыкаў, сцвярджае: «Падстава пацыфікацыі беларускіх вёсак войскамі падначаленымі капітану Рамуальду Райсу «Бураму» было палітычным, а не этнічным ці рэлігійным», і дадае: «Гэта пацвярджаецца тым фактам, што некаторыя супрацоўнікі III Віленскай брыгады НЗВ былі праваслаўнымі (Мікалай Курачкін і Уладзімір Курасаў). Аб правядзенні супакаення беластоцкіх вёсак рашала перакананне «Бурага» пра варожасць іх жыхароў да незалежніцкіх арганізацый і іх спрыянне камуністычнаму рэжыму. Другасным пытаннем у дадзеным выпадку з'яўляецца тое, ці яго меркаванне было правільным ці не. Бясспрэчным фактам з'яўляецца тое, што рашэнне аб уціхамірванні беларускіх вёсак было вялікай памылкай і прынесла трагічныя наступствы ў выглядзе смерці цывільных асоб, у тым ліку жанчын і дзяцей».

❖ ❖ ❖

**Лех Ян Міхаляк**, які нарадзіўся ў Гайнаўцы (маці была з Валоміна, а нарадзілася ў Свіслачы, сям'я бацькі — з Лодзі), прыцярушаны сівізной, але па-ранейшаму вельмі энергічны, сцвярджае:

— Я папрасіў у ІНП думкі наконт заявы, таму што я ведаю адказ на аналагічную заяву з Бельска-Падляшскага, і бачыў, што праўда выглядае інакш, чым тое, што напісана ў згаданых заявах. Я згодны з дырэктар беластоцкага аддзела: супакаенне беларускіх вёсак мела толькі палітычную глебу, вядома, не этнічную ці рэлігійную. Дрэнна здарылася, што забівалі жанчын і дзяцей. Тым не менш, не ўсе яны там памерлі. Тых, каму «Буры» і яго салдаты давяралі, што іх не здадуць, выпусцілі на волю.

працяг ☞ 10



# Агульны фон



Ну вось і з’явілася ў Беларусі свежая навіна, якая кардынальным чынам выпадае з агульнага кантэксту сусветных навін пра эмігрантаў у Еўропу, пра парушэнне ўмоў спынення агню ў Сірыі, пра тэракты і барацьбу з Ісламскай Дзяржавай, пра ўсё, што звязанае з Дональдам Трампам і амерыканскімі выбарамі. Усё гэта для беларускага вуха стала другасным у параўнанні з тым, што падчас візіту ў Беларусь расійскай дэлегацыі Аляксандр Рыгоравіч назваў Уладзіміра Уладзіміравіча Дзмітрыем Анатольевічам! Ну стаміліся мы ад кепскіх навін, ад трывожных прадчуванняў і ад поўнай адсутнасці хоць якіх-небудзь перспектыў... А тут хоць крыху гумару. Смех, як гаворыцца, падаўжае жыццё. Нават калі яно сапраўды бесперспектыўнае.

Здавалася б, звычайная агаворка. І хоць у вышэйшых палітычных колах не прынята злоўжываць такімі абмылкамі, з вуснаў беларускага кіраўніка гэта гучала цалкам прымальна для яго расійскіх суразмоўцаў. Прынамсі, кіраўнікі Расіі, і той што зараз, і той які быў да яго, зрабілі выгляд, што не пакрыўдзіліся. Як некалі не пакрыўдзіліся і на тое, што начальнік беларускай дзяржавы, зноў жа выпадкова, прымераў да сябе іх пасаду.

Хоць я не веру ў такія памылкі дастаткова дасведчаных у публічным балбатанні перад тэлевізійнымі камерамі палітыкаў. Хутчэй гатовы паверыць у добра сплânаваны спектакль. Ды і тое, што беларускае, цалкам залежнае ад татальнай цэнзуры тэлебачанне не выразала гэтых няёмкіх кадраў, а са смакам паўтарала іх, пацвярджае мае сумневы.

Я ўвогуле апошнім часам не веру ў выпадковасці вышэйшага роўню. Хутчэй схіляюся да мажлівасці існавання ўсяляких там тэорый сусветных і несусветных змоў, якія і мяняюць аблічча планеты. А хто з палітыкаў не прымае ў іх непасрэднага ўдзелу, той проста стварае агульны фон нібыта існуючага ў свеце парадку. Не больш таго.

Вось, прыкладам, беларуская апазіцыя. Яна не толькі ні ў якіх змовах не заўважаная, але нават і ў трывалых дамовах паміж самімі сабой таксама. Таму лёс іх краіны вырашаецца без іх непасрэднага ўдзелу. Вырашаецца паміж кіраўніцтвам сённяшняй Беларусі і Расіі, паміж кіраўніцтвам Беларусі і Захаду, бывае што толькі цяперашнім кіраўніцтвам Беларусі без вонкавага ўдзелу, але заўсёды без уліку думкі беларускай апазіцыі ўсімі бакамі гэтага працэсу. Хоць для агульнага фону беларускія апазіцыянеры вельмі патрэбныя. Ну як жа без агульнага фону?!

Галоўную ролю ў стварэнні агульнага фону на думку кіраўнікоў павінен адыгрываць канешне ж народ. Ён з гэтай місіяй з большага спраўляецца. У былым Савецкім Саюзе савецкі народ ствараў такі цудоўны фон для дзейнасці свайго кіраўніцтва, што можна яго разглядаць як эталон. Да гэтага эталона імкнуцца зараз кіраўнікі краін на большай частцы паслясавецкай прасторы. І галоўнае для іх ёсць не паўтарыць памылак савецкага кіраўніцтва, якія яны дасканальна вывучылі. А галоўная памылка, гэта наяўнасць такой апазіцыі, якая выбіваецца за межы фону. А значыць, за межы народу. Не ідзе з народам, недзе ў сярэдзіне, а вядзе народ наперадзе.

У межах фону, то хай сабе будзе, і нават лепш, калі будзе апазіцыя. Гэта дапушчальна і пажадана. Небяспечнай з’яўляецца толькі тая апазіцыя, якая вядзе народ за сваёй ідэалогіяй. А дзеля гэтага трэба мець яе, тую трывалую і нязменную ідэалогію. Апазіцыя ж якая ідзе за народам, гэта лепшы падарунак кожнай таталітарнай уладзе. Гэта і ёсць той самы славуты фон, які стварае ўражанне, што ў краіне нібыта нешта рухаецца, што ёсць ужо, або будзе ў перспектыве грамадскае жыццё, што ёсць надзеі на эвалюцыйныя перамены...

А дзеля падняцця настрою ў грамадстве называем Уладзіміра Уладзіміравіча як-небудзь па-іншаму і ўсе ўжо пачынаюць забывацца пра галоўнае. Пра тое, што прэсавы сакратар таго ж Уладзіміра Уладзіміравіча заявіў, што і расійскі прэзідэнт, і прэм’ер, не парушылі канстытуцыю РФ пакінуўшы тэрыторыю Расіі ўдвух адразу, бо паехалі яны ў сваю адзіную саюзную дзяржаву. Тэрыторыю сваёй краіны, маўляў, яны, прыехаўшы ў Беларусь, не пакідалі.

А гэта, між іншым, быў канкрэтны палітычны пасыл з боку Расіі ўсяму астатняму свету.

**Віктар САЗОНАЎ**

# У розе яка



У сне можна свабодна трансфармаваць усе суб’екты і аб’екты, — кажуць будыйскія майстры ёгі. Расцягваць або скручваць прастору. Сто рэчаў змяніць у адну, і адну памножыць сто разоў. Іншымі словамі: рабіць цуды, якія ў снах ясныя, як вада ў возеры. Толькі што ўсяго толькі пытанне практыкі і практыкаванняў. Ці магчыма гэта на яве? Чалавечы розум з’яўляецца надзвычай гнуткім і, верагодна, да канца існавання нашага віду не раскрыюцца ўсе яго магчымасці. Возьмем, да прыкладу, палітыкаў цяперашняй улады. Гнуткасць іх розумаў здаецца быць неабмежаванай. Што ім насніцца, так і становіцца. Яны марылі пра Польшчу ў руінах, і калі ласка, прачнуліся, і — Канстытуцыйны суд развалены, дзяржслужба развалена, грамадскі парадак развалены. Магчыма, такі ж лёс чакае Вярхоўны суд. Праходзячы за іх рыторыкай, у адпаведнасці з якой ісціна ўяўляе сабой найнізкую ступень найпраўдзівай ісціны, можна чакаць прызначэння новага суда — Найвярхоўнейшага. У яго кампетэнцыі будуць і Канстытуцыя, і заканадаўчыя палажэнні. Цікава, па якой вуліцы будзе яго сядзіба? Я стаўлю на Навагродскую.

У будыйскай традыцыі ўсё жывая гісторыю пра Міларэпу, тыбецкага манаха, які жыў у X стагоддзі і ўмеў на яве атрымліваць бясконцыя формы дадзенага суб’екта. Даказваў ён, што як сон, так і яву можна свабодна фармаваць, што ў іх тая ж самая прырода. І так Міларэпа з’явіўся аднойчы ўнутры рога яка. І ні ён, ні рог не змянілі свайго памеру, што паказвае на тое, наколькі майстар Міларэпа апанаваў свой розум. Я не пярэчу, пераход тыбецкай уявы на польскую можа быць нялёгкім. Як жа растлумачыць будыйскую веру ў тое, што цела дарослага чалавека змясцілася ў пустым розе яка? Ну, змагло, і баста! Возьмем, напрыклад, абяцанне «добрых перамен», якое цяперашні ўрад абяцаў грамадскасці, калі ім не быў. І вось, калі ласка, ёсць перамена, але ці толькі добрая? Ну, але змяненне з’яўляецца змяненнем. Можна ўбачыць яго простым вокам, рэальнае, як прысутнасць Міларэпы ў розе. Нядаўна оптам звольнілі 300 кіроўцаў у дзяржаўных сельскагаспадарчых агенцтвах. Не кіраўнікоў! Для раўнавагі ў той час пакінулі ў спакоі кіроўцаў двух дзяржаўных конскіх заводаў з сусветнай рэпутацыяй: у Міхалове і Янаве-Падляшскім, але вывалілі на брук дырэктараў — абодвух міжнародный вядомасці з трыццацігадовым стажам з ведамі і селекцыйнымі дасягненнямі. Быццам бы яны страцілі давер цяперашняй улады, якая, аднак, не клапоціцца пра страту даверу міжнароднай супольнасці. Сёння давер значыць ёй столькі, колькі для Паўночнай Карэі. Ну, але ж Карэя мае ядзерную бомбу, што падымае сусветную павагу да яе. А што мае Польшча? Ну, Польшча мае цяперашнюю ўладу, якая невядома ці працуе ў дрэнным сне, ці на яве, і, акрамя таго мае таксама тэрыконы непрададзенага вугалю, сабекошт прадукцыі якога, дзякуючы прывілеям шахцёраў, удвая перавышае рынкавую цану — так больш-менш. І немалыя на сусветным рынку рэсурсы медзі і срэбра. З гэтымі металамі, неабходнымі ў вытворчасці перадавой электронікі, Польшча магла б выйграць шмат для сябе ў якасці сусветнага пастаўшчыка. Так як Расія выйграве «свае» нафту і газ. Толькі што цана гэтых металаў пікуе рэзка ўніз, лоб у лоб з нафтай і газам, што кладзе на лапаткі мроі цяперашняга ўрада аб Польшчы ад мора да мора, і расійскія мроі дагнаць эканамічную моц ЗША і Кітая. Нагадаю, што Расія збудавала на нафце імперскую і аднолькава плаўную магутнасць. Як выветлілася, курчыцца яна прапарцыянальна да «барэльнай» цаны гэтай сыравіны. Мабыць, яе прыклад астудзіць імперскі капрыз польскіх летуценнікаў, якія, меўшы недахоп міжнароднага попыту, ужо пачалі выкоўваць медныя мячы пакрытыя для ваеннага шыку срэбрам. І гэта ў дзясятках мільёнаў штук. Значна больш, чым Польшча налічвае грамадзян. Нічога, што цяперашняй уладзе наснілася праграма 500+. Хоць абдзярэ яна дзяржбюджэт з грошай, але затое наша краіна стане... дэмаграфічнай імперыяй. І нават калі не, дык мячы лёгка прададуцца на сусветных рынках па цане металалому. Заўсёды ж будзе нейкія прыбытак. Толькі для каго страта?

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Перад Усходам

Беластоцкі асяродак культуры (БОК) арганізуе адкрыты конкурс прапаноў на сёлетні чацвёрты выпуск Фестывалю „Усход культуры/Іншае вымярэнне”, які ў гэтым годзе будзе праходзіць у сталіцы Падляшша ад 2 да 4 верасня. Для ўдзелу ў ім запрашаюцца ўстановы, няўрадавыя арганізацыі і мастакі з Беластока. Тэмай сёлетняга фестывалю будзе Украіна і гадавіна падзей на Майдане. Арганізатары, аднак, запэўніваюць: «На гэты раз не была абрана адна грамадскасць, якой будзем надаваць асаблівую ўвагу — мы адкрытыя для прапаноў, надыходзячых ад розных нацыянальнасцей, звязаных з гісторыяй нашага горада».

Мэтай конкурсу з’яўляецца выбар прапаноў, якія ахопліваюць розныя мастацкія дысцыпліны: музыку, выяўленчае мастацтва, тэатр, танцы, перфарматыўныя дзеянні, ініцыятывы ў гарадской прасторы і да т.п. Праекты павінны быць адпраўлены да 11 сакавіка 2016 года па наступным адрасе: inny.wymiar@bok.bialystok.pl. Заяўка павінна ўключаць апісанне канцэпцыі праекта, дэталі яго рэалізацыі і падрабязную расцэнку ўсёй задачы. Набор накіраваны на вылучэнне арганізатараў мерапрыемстваў у рамках фестывалю, а не толькі выканаўцаў. Беластоцкі культурны цэнтр, як каардынатар фестывалю „Усход культуры/Іншае вымярэнне” зробіць першапачатковы выбар з ліку адпраўленых прапаноў да 25 сакавіка.

„Усход культуры”, як мы шмат разоў пісалі падчас папярэдніх выпускаў, гэта культурны праект, які аб’ядноўвае мастацкія асяроддзі гарадоў Усходняй Польшчы (Беласток, Люблін і Жэшаў) і мастакоў краін Усходняга партнёрства (Арменія, Азербайджан, Беларусь, Грузія, Малдова і Украіна), ажыццяўляецца Нацыянальным цэнтрам культуры (НЦК) і трыма польскімі гарадамі-ўдзельнікамі. Як паўтараюць арганізатары з БОК яшчэ да сёлетняга выпуску, «ідэяй праекта з’яўляецца супольнае адкрыванне таго, што з’яўляецца ўнікальным у кожнай культуры, а таксама абмен мастацкім вопытам». Ідэя нарадзілася пасля рэалізацыі праекта Еўрапейскага стадыёна культуры ў Жэшаве (2011-2012) і ў Любліне (2012). На сайтах НЦК можна прачытаць: «Усход культуры з’яўляецца найбуйнейшым мерапрыемствам такога роду ў Польшчы дзеля ўмацавання дзейнасці трох гарадоў у кагерэнтным праекце, які спалучае перадумова — культурнае супрацоўніцтва ў многіх галінах паміж творчымі польскімі супольнасцямі і краінамі Усходняга партнёрства».

Я папрасіў у нядаўна прызначанага міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Пятра Глінскага і дырэктара НЦК Марка Мутора ацаніць ідэю фестывалю, выказацца, якую ролю павінен ён выканаць, у якім кірунку павінен развівацца (калі павінен) і колькі фінансавання будзе прызначаць НЦК, які фестывалі „Усход культуры” напрамую фінансуе. На жаль, прэс-сакратар, на чые рукі я накіраваў гэтыя пытанні, не мог звязацца са сваім шэфам, то-бок дырэктарам Мутарам (працуюць у тым жа будынку). Званіў я яму яшчэ перад закрыццём гэтага нумара «Нівы»: «Я ўжо падрыхтаваў адказ, але не магу дабрацца да нашага дырэктара, а без яго згоды не магу адправіць вам адказу. Спадар дырэктар Мутор з’яўляецца навічком на пасадзе і мае шэраг спраў, з якімі азнаямляецца і да гэтага часу ён заняты».

Што ж, падумаў я, праверу, што да гэтага часу скажа новы дырэктар НЦК (народжаны ў 1979 г., выпускнік факультэта паланістыкі Вроцлаўскага ўніверсітэта), які быў першым кіраўніком НЦК пасля аддзялення Цэнтра ад Інстытута Адама Міцкевіча ў 2006 годзе і кіраваў ім да 2007 г., і за гэты час стварыў некалькі праграм у галіне культуры і нацыянальнай спадчыны, у тым ліку „Патрыятызм заўтрашняга дня” і „Сведкі Гісторыі”. На гэты раз абвяшчае аб рэалізацыі трох праграмных ліній. Першай з іх з’яўляецца «Непадлеглая 2018», да стагоддзя з дня незалежнасці Польшчы, другая — „Творчая Польшча”, мэтай якой з’яўляецца павышэнне цікавасці да аматарскай мастацкай творчасці, стварэнне ўмоў для мясцовых суполак і груп, з тым каб яны маглі рэалізаваць сябе творча. Трэцяя — „Сіла культуры”, якая павінна быць свайго роду падтрымкай для аніматараў культуры, якія кожны дзень маюць справу з яе распаўсюджваннем. Што тычыцца прадбачанняў наконт „Усходу культуры”, напішу пра іх на наступным тыдні, калі нарэшце атрымаю адказ. І мабыць, змагу таксама пры нагодзе даведацца, ці беларуская культура і ў цэлым меншасная ў Польшчы ў рамках гэтых праектаў таксама неяк змесціцца. У рэшце рэшт, яна таксама належыць да культурнай спадчыны Рэчы Паспалітай.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Юбілейны пленум

**27 лютага адбыўся ўрачысты пленум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, прымеркаваны да шасцідзесяцігоддзя працы Таварыства; мерапрыемства адбылося ў сядзібе ГП БГКТ па вуліцы Варшаўскай у Беластоку. Пленум быў нагодай для падвядзення шматгадовай працы Таварыства і ўзнагароджання яго актывістаў.**

Пленум адкрыў старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі. Рэфлексіўна адзначыў ён, што лёсы Таварыства перапляталіся дабром і злом, перамогамі і паражэннямі. Найважнейшым, аднак, з'яўляецца фінал лёсу арганізацыі і яе свядомай актыўнасці — пераможны і плённы. Усе разам у агромнай беларускай грамадзе перамагалі ўсе цяжкасці дзеля будавання моцнага беларускага этнасу ў Польшчы, будавання гонару і патрыятызму беларусаў. Гаворыцца, што народ, які не шануе прошлага, забывае сваё мінулае, не мае будучыні. Мабыць таму трэба сёння ўспомніць пра нашы пачаткі — першыя пасляваенныя гады, калі беларусы пачалі ўставаць з каленяў і пачалі ўсведамляць сваю нацыянальную тоеснасць і шанаваць усё тое, што звязане з духоўнасцю кожнага народа. Прамоўца прыгадаў таксама трывожныя для нас падзеі, лджаныя акурат у той дзень у Гайнаўцы ў гонар злачынцаў на беларускім насельніцтве Беласточчыны.

Далей Ян Сычэўскі прывітаў ганаровых гасцей пленума: падляшскага ваяводу Багдана Пашкоўскага, пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Аляксандра Авяр'янава, генеральнага консула РБ у Беластоку Алу Фёдараву, дасюлешняга дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуарда Швайко, прадстаўніка МУСіА Яраслава Малэцкага, дырэктара дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы Анатоля Вапа, мастацкага кіраўніка Беларускага народнага хору імя Цітовіча Міхала Дрынеўскага, загадчыка Беларускага фонду культуры Тадэвуша Стружэцкага і новага дырэктара КЦБ у Польшчы Міхала Рыбакова.

Далей Ян Сычэўскі зачытаў пастанову Прэзідэнта РП: Бронзавы крыж заслугі атрымалі Ала Каменская, Васіль Сегень і Гражына Валкавыцкая-Тамашук. Далей — рашэннем міністра культуры Рэчы Паспалітай БГКТ атрымала адзнаку Заслужаны для культуры „Gloria Artis”. Міністр культуры адзнакай Заслужаны для польскай культуры вылучыў наступныя асобы: Марыюш Харужы, Лідзія Мартынюк, Юры Астапчук; узнагароджаных адзначыў ваявода Багдан Пашкоўскі.

Аляксандр Авяр'янаў выказаў радасць ад пабыўкі на Беласточчыне, якая нагадвае яму мовай і добрымі людзьмі ягоную Малую радзіму каля Гомеля і прыпамінае ягонае дзяцінства. Далей ён пажадаў поспехаў Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству. Эдуард Швайко зачытаў указ Прэзідэнта РБ аб узнагароджанні Ордэнам Францыска Скарыны Яна Сычэўскага і Валянціны Ласкевіч, а Медалём Францыска Скарыны — Юрыя Астапчука. Узнагароды ўручыў Аляксандр Авяр'янаў. Былі зачытаны віншаванні ад прэм'ер-міністра Беларусі Андрэя Кабякова. Шэраг настаўнікаў беларускай мовы было ўзнагароджаных граматамі міністра адукацыі РБ, м.інш. Ніна Абрамюк, Іаланта Грыгарук, Юры Баена. Былі граматы ад міністра культуры РБ. Былі такса дыпломы ад Культурнага цэнтра Беларусі.

Ян Сычэўскі падзякаваў за ўзнагароды і прызначыў адмысловыя дыпломы Таварыства. Першымі атрымалі іх Аляксандр Авяр'янаў, Эдуард Швайко, Міхал Дрынеўскі, Тадэвуш Стружэцкі. Далей такія ж дыпломы атрымалі дзеячы БГКТ.

Ваявода Багдан Пашкоўскі адзначыў, што шасцідзесяцігадовы даробак БГКТ упісаўся ў гісторыю Беласточчыны і падзякаваў актыву за дасюлешнюю дзейнасць і пажадаў дабра ў будучыні.

Тадэвуш Стружэцкі нізка пакланіўся ўсім беларусам Беласточчыны за тое, што захавалі традыцыю і годнае імя беларусаў. За гэта іх паважаюць многія тысячы беларусаў з Беларусі. Да таго ж БГКТ правяло вялікую папулярызацыю беларускай культуры ў Польшчы, дзе пабывала каля паўтысячы мастацкіх калектываў з Беларусі, якія тут атрымоўвалі станоўчыя стымулы для сваёй далейшай працы. Прамоўца адзначыў папулярную ў Беларусі фразу: „Калі хочаш адчуць сваю беларускасць, прыедзь хаця раз на фестываль беларускай песні ў Беластоку”.

Яраслаў Малэцкі зачытаў ліст ад міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі з віншаваннямі і словамі прызнання за дасюлешнюю дзейнасць Таварыства, за руплівасць яго членаў па захаванні культуры продкаў. Былі пажаданні далейшых поспехаў і запэўніванні ў далейшай падтрымцы з боку міністэрства.

Даклад ГП БГКТ аб дзейнасці Таварыства зачытаў намеснік старшыні Васіль Сегень. Напачатак прыгадаў ён галоўныя вехі беларускай культурнай дзейнасці. 26 лютага 1956 года адбылася падзея, якая вызначыла лёс беларускага насельніцтва Беласточчыны на многія дзесяцігоддзі. Той дзень даў пачатак унікальнай гістарычнай з'яве. З удзелам чатырохсот дэлегатаў і гасцей адбыўся заснавальніцкі з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. З'яўленне гэтай арганізацыі дало моцны штуршок для развіцця нацыянальнага жыцця. Зараз жа яго актыў наведаў 102 беларускія вёскі інфармуючы людзей пра паўстанне новай арганізацыі і яе задачы. Была неўзабаве створана структура для актыўнай дзейнасці ў карысць беларускасці. У пік актыўнасці БГКТ у яго распараджэнні было трыццаць штатаў, якія поўнасцю аплачваліся ўладамі нашай краіны. 4 сакавіка 1956 года выйшаў першы нумар „Нівы”, якая шматбакова папулярызавала родную мову і культуру. 1 чэрвеня таго ж года арганізаваўся хор БГКТ са ста асоб. Ён штогод наведваў каля сарака мясцовасцей, выступаючы, м.інш. у Варшаве і Гродне. Такі буйны калектыў не мог выступаць на малых вясковых сцэнах, таму з'явілася патрэба зладзіць невялікі прафесійны калектыў; так узнікла з васьмі асоб эстрадная група „Лявоніха”; першы канцэрт адбыўся 13 лістапада 1960 года, у 1961 годзе „Лявоніха” дала ажно трыста канцэртаў. 19 сакавіка 1965 года адбыўся яе тысячны канцэрт. Вялікім ударам па беларускай культуры была яе ліквідацыя ў 1973 годзе; за час сваёй дзейнасці „Лявоніха” дала звыш дзвюх тысяч канцэртаў — была яна непаўторнай з'явай у беларускай культуры так па колькасных, як і якасных паказчыках. У лютым 1957 года выйшаў першы „Беларускі каляндар”. 30 сакавіка 1958 года была створана Эканамічная камісія, якая пазней пераўтварылася ў прамыслова-гаспадарчае прадпрыемства „Бэтэска”, якога фінансавыя сродкі падмацоўвалі дзейнасць БГКТ; 1 лютага 1963 года па загадзе ўлад „Бэтэска” спыніла сваю дзейнасць. 8 чэрвеня 1958 года адбылася арганізацыйная сустрэча Беларускага літаратурнага аб'яднання, названага „Белавежай”. У студзені 1960 года БГКТ атрымала памяшканне па вуліцы Варшаўскай 11... Далей дакладчык расказаў пра дынаміку беларускага школьніцтва на Беласточчыне ды цяперашні стан беларускай мастацкай самадзейнасці.

Далей былі індывідуальныя віншаванні і падзякі. Міхалу Дрынеўскаму 12 лютага споўнілася 75 гадоў — былі віншаванні і „Многая лета”. І Эдуарду Швайко падзяка і „Многая лета”. І галоўнаму юбіляру — Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству таксама былі віншаванні і „Многая лета”... Былі віншаванні ад калектываў і індывідуальных асоб. Былі зачытаны віншавальныя лісты ад літаб'яднання „Белавежа” і ад Інстытута ўсходнеславянскіх філалогій Беластоцкага ўніверсітэта. Былі таксама індывідуальныя рэфлексіі на больш шырокія тэмы.

Даволі нечаканым было для мяне выступленне надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Аляксандра Авяр'янава. Напоўнены энтузіязмам ад адухоўленай сустрэчы ён зачытаў свой уласны верш пра Радзіму:

*Што абазначае для мяне Радзіма?*
*Чым лепшая Яна ад другіх краін?*
*Яна як Маці ў мяне перад вачыма*
*І спавіўся я ў Яе вачах як сын.*
*І я шчаслівы, што жыву на Беларусі,*
*І я шчаслівы, што Яе грамадзянін,*
*І гэтым сапраўды я ганарuся,*
*І безумоўна гэта адчуваю не адзін.*
*І безумоўна не адзін я ў Беларусь ўлюбёны*
*Дакладна палічыць усіх немагчыма*
*Нас у Радзімы — мільёны,*
*Мы Яе дзеці, а Яна — Маці, Радзіма.*

Гэты цудоўны верш беларускага дыпламата мог бы быць фінальным акордам вельмі цёплага і адухоўленага мерапрыемства. Але было больш. Сваімі вакальнымі ўмеласцямі парадавалі сабраную публіку калектывы „Світанак”, „Арт-Пронар” і „Калінка”.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА


Прэзідыум пленума (злева направа): Валянціна Ласкевіч, Сяргей Шчыгал, Ян Сычэўскі, Васіль Сегень


Госці юбілею (справа налева): Багдан Пашкоўскі, Аляксандр Авяр'янаў, Ала Фёдарава, Эдуард Швайко, Міхал Рыбакоў, Анатоль Вап

60 Ніва

## Акурат шэсцьдзесят

Яўгену Вапу
і яго Супрацоўнікам

Мая падзяка для Нябёс,
Што сёння сапраўды шчаслівы,
Калі я спалучыў свой лёс
З беларускай роднай „Нівай”.

Мне „Ніва” заўжды па душы,
І дарагая, і святая.
Сэрца падказвае: пішы,
Пішу, пішу я, не змаўкаю.

„Ніва” ўжо шэсцьдзесят гадоў
Ва ўмовах польскасці трывае
І сваіх верных чытачоў
Родным словам узбагачае.

А да сваіх апошніх дзён
Валкавыцкі, Гайдук, Яновіч,
У „Ніве” спелілі свой плён,
Вялікі ўклад усебаковы.

А сёння „Ніва” у руках
Маладога пакалення.
Няхай жа плённым будзе шлях,
Квітнее творчае натхненне!

Віктар ШВЕД
Беласток, 4 сакавіка 2016 года

❖ ❖ ❖

## Мая „Ніва”

Хоць час неспакойна-імклівы
Бяжыць, не угнацца за ім...
З маёй беларускаю „Нівай”
Ніколі не буду чужым.

Яе пазнаю па старонках,
Па аўтарах і па радках.
Яна, нібы песняю звонкай,
Заўсёды на нашых шляхах.

Я толькі з табою шчаслівы
Іду, не спыняю хаду.
Мая беластоцкая „Ніва” —
Больш роднай, чым ты, не знайду.

Таму я чытаю заўсёды
Пра нашых людзей і зямлю.
І шчыра цябе з кожным годам
Яшчэ больш шаную, люблю.

Цябе юбілей не састарыць
І гэтай вясновай парой,
Бо з „Нівай” імклівая старасць
Ніколі не будзе старой.

Бо з ёю мы ўсе маладзеем,
Хоць „Ніве” ужо — 60!
Мы роднае слова з ёй сеем,
З надзеяй глядзім ў далягляд!

Хай час неспакойна-імклівы
Бяжыць і бяжыць напраткі...
З маёй беларускаю „Нівай”
Жыве Беларусь, сябрукі!

Сяргей ЧЫГРЫН

# Школа ў Нараўцы з патронам Аляксандрам Валкавыцкім

**Падчас XII сесіі Рады Нараўчанскай гміны, якая прайшла 23 лютага, адбылося тайнае галасаванне па пытанні праекта пастановы, каб з 1 верасня 2016 года Падставовую школу ў Нараўцы пазбавіць патранажу Аляксандра Валкавыцкага. Такую пастанову падтрымала 6 радных, 7 радных было супраць, 1 радны стрымаўся ад галасавання, а 1 радны выйшаў з залы пасяджэння перад галасаваннем і не паспеў на яго вярнуцца. Такім чынам праект пастановы быў адхілены і Падставовая школа ў Нараўцы надалей будзе насіць імя Аляксандра Валкавыцкага.**



■ Радныя Нараўчанскай гміны аднагалосна прынялі рашэнне аб тайным галасаванні па пытанні патрона школы

— У нашу школу прыйшло многа лістоў з заклікам адмяніць дасюлешняга патрона. Мы ў гэтай справе атрымалі многа мейлаў, было многа тэлефонаў. Апошнім часам націск на школу, каб Аляксандр Валкавыцкі перастаў быць патронам, быў яшчэ большы. Націскі звонку перараслі нас і я думаю, што шчаслівыя тыя школы, у якіх няма патронаў. Мы, настаўнікі, супольна з войтам гміны рашыліся правесці апытанне ў справе патрона і даведацца, што думаюць бацькі і настаўнікі. На падставе апытання паўстаў праект пастановы, каб школа была без патрона. Праект будзе прадстаўлены сёння на сесіі, — сказала яшчэ перад галасаваннем дырэктар Падставовай школы імя Аляксандра Валкавыцкага і Публічнай гімназіі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Марыя Леўша.

Аляксандр Валкавыцкі пасля вайны быў кіраўніком Падставовай школы ў Нараўцы, а ў канцы 1944 года ўступіў у рады Польскай рабочай партыі. На падставе прысуду вайсковага суда Арміі Краёвай быў расстраляны ў пачатку 1945 года.

— Я асабіста супраць адхілення Валкавыцкага ў якасці патрона школы. Аднак розныя асяроддзі націскалі на нас, каб мы змянілі патрона і таму мы зрабілі апытанне і падрыхтавалі праект пастановы на сесію. Калі радныя падтрымаюць прапанову, падставовая школа ў Нараўцы будзе без патрона, — заявіў у час перапынку перад галасаваннем старшыня Рады Нараўчанскай гміны Анджэй Недзьведзь.

На сесіі перад раднымі выступіў войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч, які абвясціў вынікі апытання.

— Многа часу гаворыцца ў нас наконт патрона школы Аляксандра Валкавыцкага. У канцы мінулага года былі праведзены кансультацыі. 12 настаўнікаў было за патронам Аляксандрам Валкавыцкім, 13 настаўнікаў прагаласавала, каб школа дзейнічала без патрона, а 4 настаўнікаў стрымаліся ад выказвання ў гэтай справе. Затое 59 бацькоў было за тым, каб патронам нашай школы застаўся Аляксандр Валкавыцкі, 25 бацькоў хацела, каб падставовая школа дзейнічала без патрона, а 28 бацькоў адмовіліся выказвацца ў гэтай справе. Мы правялі таксама апытанне сярод жыхароў Нараўкі, якія жывуць па вуліцы Аляксандра Валкавыцкага. Усе жыхары гэтай вуліцы хацелі, каб пакінуць назву Аляксандра Валкавыцкага. Тут мeў значэнне фінансавы бок справы, бо жыхары мусілі б выдаткаваць грошы, мяняючы ўсе дакументы. Мусілі б яны таксама памяняць свае даныя ва ўсіх установах. Па гэтай вуліцы зарэгістраваныя прадпрыемствы, якія мусілі б перарэгістаравацца. Нядаўна з сеймавага «маразільніка» быў выняты праект дэкамунізацыйнага закону, які прадбачвае, што ваявода будзе мог адмяніць патронаў з камуністычным радаводам і калі гэтая пастанова ўступіць у сілу, тады ваявода будзе вырашаць такія справы, як наша. Зараз паўстаў праект пастановы, каб Падставовая школа ў Нараўцы з 1 верасня 2016 года дзейнічала без патрона, — сказаў на сесіі, войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч.

— Мы самі павінны вырашаць, што зрабіць з патронам, а не слухаць, што нам гаворыць звонку. Павінны пакінуць назву школы такой, якая яна ёсць цяпер, — заявіў перад галасаваннем солтыс Нараўкі Мечыслаў Грыц, старшыня Рады Нараўчанскай гміны папярэдняга склікання. Пасля сесіі дабавіў: — Выбар патронаў для школ ці іншых устаноў не ядная грамадства, а яго дзеліць. Я за тым, каб такіх патронаў не выбіраць. Адным гэты патрон падабаецца, а другім ён не падыходзіць, з часам паяўляюцца іншыя праціўнікі таго ці іншага патрона. Героі пасля нейкага часу могуць быць крытыкаваныя і могуць з'явіцца патрабаванні адмяніць патронаў. Калі я ў папярэднім скліканні быў старшынёй Рады гміны, пытанне адмяніць патрона школы паяўлялася, але нам з Інстытута нацыянальнай памяці не даслалі доказаў на віноўнасць Аляксандра Валкавыцкага.

Радны Міраслаў Краснапольскі заявіў, што для таго, каб памяняць патрона школы патрэбныя доказы на супрацу Аляксандра Валкавыцкага хаця б са службай бяспекі, але такіх радным не прадставілі. Перад галасаваннем радны Лявон Хлябіч выступіў з фармальнай прапановай тайнага галасавання ў справе патрона школы і радныя яго ідэю аднагалосна падтрымалі.

— Ёсць прэсія звонку, каб мы адхілілі патрона Аляксандра Валкавыцкага. Няма доказаў у Інстытуце нацыянальнай памяці, што ён каму-небудзь зрабіў крыўду. Быў ён добрым чалавекам, а адзіная доказаная яго віноўнасць, гэта яго прыналежнасць да Польскай рабочай партыі. Быў ён беларусам, вучыў беларускай мове і павінен застаца патронам школы, — сказаў радны Лявон Хлябіч. Яшчэ раней заявіў ён журналістам, што будзе галасаваць супраць праекта аб адмене патрона школы, бо лічыць Аляксандра Валкавыцкага чэсным чалавекам, які змагаўся за беларускае школьніцтва. У Нараўцы, з якой быў ён выбраны радным, знаходзіцца вуліца Аляксандра Валкавыцкага, якой назву таксама прапанаваў пакінуць.

Ніхто з радных і прысутных на сесіі асоб не выказваўся крытычна наконт патрона Валкавыцкага. Падчас тайнага галасавання па пытанні пазбаўлення школы патрона Аляксандра Валкавыцкага 6 радных выказалася за, 7 радных было супраць. Адзін радны стрымаўся ад галасавання і адзін радны выйшаў з залы перад галасаваннем і не паспеў вярнуцца. Такім чынам праект пастановы быў адхілены і Падставовая школа ў Нараўцы надалей будзе насіць імя Аляксандра Валкавыцкага.

— Сёняшняе галасаванне радных канчае этап кансультацый і Падставовая школа ў Нараўцы застаецца з імем Аляксандра Валкавыцкага. Аднак пэўна справа на гэтым не закончыцца. Пэўна надалей будзе ставіцца гэтае пытанне, — сказаў пасля сесіі войт Мікола Павільч.

— Мы шануем рашэнне Рады гміны і вынік кансультацый з бацькамі. Пабачым, што прынясе нам час, як пасадзейнічае ўсё гэта на выбар нашай школы бацькамі і вучнямі, як пасадзейнічае гэта на асоб, якія вельмі дрэнна гаварылі пра нашу школу і нашага патрона, — сказала пасля галасавання дырэктар Комплексу школ у Нараўцы Марыя Леўша.

— Я не бачу нічога дрэннага ў асобе Аляксандра Валкавыцкага. Інстытут нацыянальнай памяці не знайшоў доказаў на яго супрацоўніцтва з немцамі. Ён быў добрасумленны чалавек, кіраваў нашай школай у пасляваенны час. Пастанова, каб зняць яго з патрона школы паявілася таму, каб пакінулі нас у спакоі ў сувязі з націскамі звонку, — сказаў наш ніўскі карэспандэнт і радны Янка Целушэцкі. — У справе вуліцы імя Аляксандра Валкавыцкага таксама ішла дыскусія ў Нараўцы і паявілася нават прапанова, каб гэтую вуліцу назваць Заблоцкай, таму што яна вядзе ў Заблоччыну, але гэтае пытанне цяпер не разглядаецца.

— Мае бацькі ўспаміналі Аляксандра Валкавыцкага як чалавека, які з вялікай ангажаванасцю арганізаваў у Нараўцы школьніцтва, — сказала мясцовая настаўніца беларускай мовы Анна Кандрацюк.

❖ Тэкст і фота Аляксей МАРОЗ



# Няздзейсненае чаканне (2)

Аб праектаваных зменах у так званы вялікі закон аб СМІ і ў адукацыю ў кантэксце прававаых рашэнняў, якія тычацца меншасцей, вялася гутарка падчас апошняга пасяджэння Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей. Меншасны бок указаў на неабходнасць прымання Камісіяй афіцыйнай пазіцыі па пытаннях важных для меншасцей, асабліва ў дачыненні да праяў усіх відаў дыскрымінацыі, ксенафобіі і няраўнапраўнасці.

У ходзе дыскусіі, якую ініцыяваў старшыня Беларускага грамадскага-культурнага таварыства Ян Сычэўскі са спасылкай на І Гайнаўскі марш салдатаў праклятых і апасенняў, якія накont таго мае беларуская праваслаўная меншасць у Польшчы (пісалі мы аб тым у папярэднім нумары «Нівы»), прадстаўнік лэмкаўскай меншасці Стэфан Дудра патрабаваў:

— Мы павінны выпрацаваць агульную пазіцыю, каб у такіх пытаннях быў чутны голас нашай Сумеснай камісіі. Да гэтага часу мы былі і ёсць органам, які не можа прабіцца да публічнай думкі, таму што не бярэм голасу ў вельмі важных пытаннях, істотных для нацыянальных і этнічных меншасцей.

**ПАТРЭБА Ў СУПОЛЬНЫХ ПАЗІЦЫЯХ**

Пятро Тыма, старшыня Саюза ўкраінцаў у Польшчы:

— Мы ў апошнія некалькі гадоў маем справу з нарастаннем такой з'явы як мова нянавісці, вербальная агрэсія, накіраваная супраць меншасцей. Гэта прымае розныя формы. Мелі мы ў мінулым годзе хвалю разбурэння помнікаў і мемарыялаў на ўкраінскім паўднёвым усходзе Польшчы. Дзеянні дзяржаўных органаў: паліцыі, пракуратуры, але і Рады па захаванні помнікаў барацьбы і пакутніцтва пакідаюць жадаць лепшага.

Дадаў:

— Мы разумеем, што дэманстрацыя розных арганізацый змяшчаецца ў межах устаноўленых законам, але прапаганда лозунгаў, якія правакуюць гвалт і нянавісць, выходзіць за гэтыя межы. Шмат разоў падчас сустрэчы групы па мове нянавісці ведамства МУС прадстаўлены былі фатаграфіі, дакументы, якія сведчаць аб тым, што арганізатары канкрэтных мерапрыемстваў, у тым ліку арганізацыя, якая стаіць за маршам у Гайнаўцы, допускаюца неаднаразова па некалькіх параграфах парушэнняў закону, што не прыводзіць да дзеянняў з боку дзяржаўных органаў. Ці гэтыя пытанні будуць змяшчацца ў рамках палажэнняў прыярытэтаў МУСіА ў дачыненні да меншасцей?

Намеснік міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі, сустаршыня Сумеснай камісіі Себастыян Хвалэк:

— Нават няма дыскусіі: мы асуджаем такія дзеянні і паводзіны.

Рафал Бартэк, сустаршыня Камісіі ад меншаснага боку (нямецкая меншасць) у размове з журналістамі спаслаўся на неабходнасць прыняцця пазіцыі Камісіяй па пытаннях, якія тычацца меншасцей:

— Ці ўдасца выпрацаваць нейкую агульную пазіцыю ў справе, якую абмяркоўваем неаднаразова — супрацьдзеяння дыскрымінацыі ў дачыненні да меншасцей, якая часцяком з'яўляецца вынікам недахопу ведаў і адукацыі, цяжка сказаць. Буду, аднак, падахвочваць, каб мы распачыналі такія ініцыятывы. Падобна як у кантэксце таго, аб чым гаварыў спадар Сычэўскі. Пазіцыя па гэтых пытаннях павінна быць прынята Камісіяй і распаўсюджана. Мы дыскутавалі на пасяджэнні ў рамках меншаснага боку аб палітычных правах меншасцей. Выспела ў нас ідэя, што ў кантэксце працягваючыхся прац па выбарчым законе, неабходна падаць заяву аб унясенні змяненняў у карысць удзелу меншасцей у польскім парламенце. Мы можам чакаць ад дзяржавы, якая абавязалася абараняць правы меншасцей, каб у іншай мадэлі, чым раней, гарантавала яна меншасцям магчымасці ўдзелу ў палітычным жыцці.

**НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СМІ**

Аб зменах, якія чакаюць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, распавядаў Конрад Шчэбёт (па паходжанні беластачанін), дырэктар Дэпартамента нацыянальных устаноў культуры Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны. Згодна з праектам, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі павінны быцьператвораныя ў нацыянальныя СМІ, значыць, трактаваныя з фармальна-юрыдычнага пункту гледжання як іншыя нацыянальныя інстытуты (напрыклад, тэатры і нацыянальныя музеі). Дырэктар Шчэбёт:

— Таму будуць прадметам аналагічных правілаў і мець аднолькавую структуру і, вядома, з некаторымі зменамі, якія вынікаюць з іх спецыфікі.

Віцэ-міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Кшыштаф Чабанскі (непасрэдна адказвае за ператварэнне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі) у лісце, накіраваным Сумеснай камісіі інфармаваў: «Нацыянальныя сродкі масавай інфармацыі, хаця ў прынцыпе карыстацца будуць польскай мовай, у выпадку, калі гэта будзе апраўдана інфармацыйнымі, адукацыйнымі або мастацкімі падставамі, патрэбамі нацыянальных або этнічных меншасцей, будуць мець магчымасць выкарыстоўваць іншую мову. Акрамя таго, мяркуецца, што асаблівую ролю ў нацыянальных сродках масавай інфармацыі будуць мець грамадскія праграмныя рады. Іх задачай будзе інспіраванне дзеянняў, звязаных з рэалізацыяй грамадскай місіі і ацэньванне нацыянальных СМІ і меркаванні пра іх планы і рашэнні. Мяркуецца, што кандыдатаў да ўдзелу ў праграмных радах нацыянальных СМІ рэгіянальных радыёстанцый і мясцовых аддзяленняў Польскага тэлебачання, якія ствараюць і распаўсюджваюць праграмы для нацыянальных або этнічных меншасцей, могуць заяўляць таксама арганізацыі гэтых меншасцей». Фраза «могуць заяўляць» у адносінах да будучых рад выклікала няўпэўненасць некаторых членаў. Яны сцвердзілі, што такое «адкрытае» палажэнне закона можа азначаць, што прадстаўнікі меншасцей у гэтыя рады не ўвойдуць, бо, як правіла, было так раней у выпадку праграмных рад. Намеснік міністра УСіА сустаршыня Сумеснай камісіі Себастыян Хвалэк запэўніваў, што да закону аб нацыянальных сродках масавай інфармацыі будзе апублікаванае рэгуляванне, якое будзе акрэсліваць патрэбу ў такіх прызначэннях. Віцэ-міністр Чабанскі ў сваім лісце дадаў: «У працах над зменай сістэмы функцыянавання СМІ і ператварэннем іх у нацыянальныя СМІ ўлічваецца шэраг магчымых рашэнняў», а дырэктар Шчэбёт паведаміў, што ў сувязі са зменамі ў закон аб СМІ будуць ажыццяўляцца публічныя кансультацыі, а ў запісе аб удзеле ў нацыянальных сродках масавай інфармацыі меншасцей з'яўляецца адной з апор закона. Дырэктар Шчэбёт як пасрэднік Міністэрства культуры і Сумеснай камісіі заахвочваў да кантактаў якраз з ім, калі гаворка ідзе аб пытаннях меншасцей у сродках масавай інфармацыі, у тым ліку магчымых праблем з прызначэннем прадстаўнікоў меншасцей у будучыя грамадскія праграмныя рады. Ён заявіў таксама аб дапамозе, калі справа дойдзе да прыцягнення для праектаў меншасцей сродкаў з бюджэту міністэрства культуры:

— Мы адкрытыя для інтэнсіфікацыі супрацоўніцтва. Адным з прыярытэтаў Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны з'яўляецца ўмацаванне культуры, якая мае быць бліжэйшай да людзей.

Стэфан Дудра, прадстаўнік лэмкаўскай меншасці, пацікавіўся вызначэннем нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі і спосабам адбору членаў грамадскіх праграмных рад, у тым ліку выводзячыхся з суполак меншасцей. Конрад Шчэбёт сказаў:

— Няма ў цяперашні час канкрэтных мер. Усе заўвагі будуць улічаны.

Ён дадаў, са спасылкай на адно з выступленняў, што ён паспрабуе пераканаць кіраўніцтва Польскага тэлебачання, каб праграма аб нацыянальных і этнічных меншасцях транслявалася адным агульнапольскім каналам у добрым часе.

**ЗМЕНЫ Ў АДУКАЦЫІ**

Планы змен у сферы адукацыі, у сваю чаргу, прадставіў намеснік міністра адукацыі Мацей Копэць. Яго выступленне, аднак, засяроджана было перш за ўсё на планах урада ў гэтай галіне. Успомніў пра падрыхтоўку да ўмацавання ролі куратараў, якія, як мяркуецца, маюць атрымаць большыя кампетэнцыі ў адносінах да школ з выкладаннем на мовах меншасцей, а таксама ў дачыненні да экзаменаў на мове меншасці. Ён паведаміў, што яго ведамства ў бліжэйшы час праявдзе дэбаты аб змене ў сістэме адукацыі ва ўсіх ваяводствах. Сябры камісіі з боку меншасцей пыталіся:

— Ці плануюцца змены ў фінансаванні меншаснай адукацыі?

Пазбягаючы адназначнага адказу, намеснік міністра Копэць сказаў, што якраз ваяводскія абмеркаванні будуць выдатнай магчымасцю падняць гэтае і іншыя пытанні, звязаныя з адукацыяй меншасцей. Пры нагодзе, быццам бы са спасылкай на адзін з прыярытэтаў урада — вядзенне гістарычнай палітыкі, указаў на неабходнасць умацавання выкладання гісторыі ў школах, дзе колькасць гадзін у апошнія гады знізілася на сто адсоткаў. Нейкім чынам у гэтае ўпісалася выказванне Пятра Тымы, які звярнуў увагу на адсутнасць удзелу прадстаўнікоў нацыянальных і этнічных меншасцей у гістарычнай дыскусіі, ініцыяванай прэзідэнтам Анджэем Дудам. Гаворка ідзе пра дэбаты на тэму «Гістарычная палітыка: кантэксты, ідэі, праекты» ў рамках Нацыянальнай рады па развіцці, якая праходзіла ў прэзідэнцкім палацы 16 лютага. Удзельнікі дэбатаў атрымалі запіс сустрэчы адкрываючай працу па стварэнні Стратэгіі польскай гістарычнай палітыкі, якая адбылася 17 лістапада 2015 года ў Бельведэры, у якой таксама не прымалі ўдзелу прадстаўнікі меншасцей. Намеснік міністра Хвалэк: «Я не магу выказвацца за прэзідэнта».

Раней дырэктар Дэпартамента нацыянальных і этнічных меншасцей ды веравызнанняў і нацыянальных і этнічных меншасцей МУСіА Дабеслаў Жэмянеўскі, успамінаючы пра неабходнасць мадэрнізавання стратэгіі развіцця адукацыі нацыянальных меншасцей, у тым ліку беларускай, запэўніваў, што для гэтай мэты будзе весціся дыскусія ды маюць быць унесены адпаведныя прававыя палажэнні наконт таго, якія задачы ў гэтых адносінах павінны быць рэалізаваны мясцовымі органамі ўлады і школамі.

— Няма прапанаваных сістэмных змен, — так дырэктар Жэмянеўскі выказаўся аб праблеме падручнікаў і дапаможных кніг для вывучэння моў меншасцей, дадаўшы, што ў гэтых адносінах таксама павінны быць прыняты дзеянні.

Наступнае пасяджэнне СКУіНіЭМ — аж у палове чэрвеня.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Міхалоўская дэмаграфія

Зараз у Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета пражываюць 6 792 чалавекі ў 69 мясцовасцях. Адна мясцовасць — Калітнік — пяць гадоў таму адышла ў нябыт. Асталася ад яе толькі табліца з назвай. На памяць.

У 2010 годзе ў гміне пражывалі 7 154 чалавекі, у 2011 — 7 088, у 2012 — 6 975, у 2013 — 6 886, у 2014 — 6 775 і ў 2015 годзе — 6 792 (!). Як бачым жыхароў з кожным годам было ўсё менш і менш. Прыйшоў 2015 год і лік жыхароў павялічыўся на сямнаццаць чалавек.

У горадзе Міхалова пражываюць 3 153 чалавекі. Найбольшымі вёскамі ў гэтай гміне з'яўляюцца Новая Воля — 292 жыхары, Ялоўка — 247, Бандары — 235, Шымкі — 200, Саколе — 188, Навасады — 157, Казімерова — 152, Тапаляны — 145, Жэдня — 135, Геранімова — 130, Юшкаў Груд — 126, Кабылянка — 118, Цісоўка — 84, Пянькі — 72, Мастаўляны-Каленія — 70, Леўшы — 66, Масціска — 65, Бахуры — 64, Патока — 58, Азяблы — 57, Баршчэва — 54, Ціванюкі — 53, Тыльвіца — 51.

На працягу трох апошніх гадоў адбыліся немалыя дэмаграфічныя змены. У Саколі лік жыхароў пабольшаў ажно на 56 чалавек (!), у Кавалёвым Грудзе і ў Юшкавым Грудзе — у кожнай з гэтых вёсак на 5, у Геранімове і Майдане — там і там на 4, у Бахурах, Тыльвіцы і ў Патоцы — у гэтых трох сёлах у кожным з іх на 3, у Ціванюках — на 2, у Кабылянцы і ў Масцісках — там і там на 1.

Міхалова паменшала на 83 асобы (!). У Бандарах лік жыхароў паменшаў на 21 чалавека, у Ялоўцы — на 18 чалавек, у Навасадах — на 14, у Казімерове і ў Новай Волі — на 12, у Залешанах і ў Шымках — у абедзвюх вёсках на 10, у Лявонавічах — на 8, у Цісоўцы і ў Тапалянах — там і там на 7, у Баршчэве — на 6, у Гознай і ў Леўшах — у кожнай з гэтых вёсак асобна на 5, у Азяблах на 4, у Мастаўлянах-Каленіі — на 3, у Пяньках — на 2 і ў Багнюках — на 1.

Цяпер усяго адна асоба жыве ў Такароўшчыне ды па дзве асобы жывуць у Будах, Бярэзіне і ў Новых Кухмах, па тры — у Ганчарах, Курылах і Польку, чатыры — у Сахарках, па пяць — у Крукоўшчыне, Раманаве і ў Старых Кухмах, шэсць — у Займе, сем — у Гарбачах, восем — у Калясным, дзесяць — у Юльянцы, па дванаццаць — у Дублянах, у Кухмах-Коцах і ў Кухмах-Петруках, на трынаццаць — у Майдане і ў Супрунах, чатырнаццаць — у Тыльвіцы-Каленіі, пятнаццаць — у Кавалёвым Грудзе, па дзевятнаццаць — у Багнюках. Каменным Бродзе і ў Мацейкавай Гары, па дваццаць — у Гознай і ў Тайніцы-Дольнай ды ў Тайніцы-Гурнай жыве 21 чалавек. Жывуць пераважна старэйшыя людзі, у тым ліку ўдаўцы і ўдовы ды старыя кавалеры.

У гэтых малых вёсках няма вяселляў і хрэсьбінаў. Пахованы бываюць часта. Тады пахаваць бацькоў прыязджаюць дзеці з горада, а то і з замежных краін. На так званай Усходняй сцяне вёскі ціха паміраюць. Толькі ў Саколі на працягу трох гадоў прыбылі 53 асобы! Як чырыкаюць вераб'і, там у лясной ваколіцы (тут Кнышынская пушча) адкрылі дом для састарэлых людзей.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Малая гераіня цяжкай дыктоўкі



Фота Уршулі ШУБЗДЫ

Агульна школьную дыктоўку, якая прайшла 19 лютага з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы, пісала каля 50 вучняў. Традыцыйна арганізавала яе Непублічная пачатковая школа імя свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Любы жадаючы вучань мог прыняць у ёй удзел. Пераможцы атрымалі ад «Нівы» адмысловыя прызы.

Сярод вучняў пачатковай школы перамагла Алеся Буткевіч. Хаця Алеся чакала добрага выніку, перамогі яна не спадзявалася. Тым больш што малая гераіня з'яўляецца вучаніцай чацвёртага класа.

**— Вы пісалі дыктоўку паводле кніжкі «З Мора ў горад» беларускага паэта Віктара Шведа. Ці былі цяжкасці, правільна напісаць, ці не?**

— Я люблю дыктоўкі. Для мяне тэкст быў адносна лёгкі, таму што я дастаткова добра валодаю пісьмовай беларускай мовай. Тэкст быў для мяне абсалютна невядомы, я яго ні разу не бачыла. Аднак з радасцю яе напісала і пры нагодзе патрэніравалася ў граматыцы.

**— Мне здаецца, што дыктоўка з нагоды Дня роднай мовы гэта вельмі істотная падзея ў жыцці вашай школы. Ці Ты разлічвала на такі поспех?**

— Шчыра гаворачы, я не чакала такога выніку. Спадзявалася, што буду трэцяй або другой сярод усіх вучняў, якія пісалі дыктоўку. З вялікім здзіўленнем сустрэла гэтую навіну. Я шчаслівая.

**— Твой поспех сведчыць пра высокі ўзровень ведання беларускай мовы, граматыкі. Асабліва ўважліва падыходзіш да заняткаў па беларускай мове?**

— Ніколі я не мела праблем з беларускай мовай і таму вельмі ахвотна і актыўна ўдзельнічаю ў занятках. Я ўжо ў трэцім класе прыняла ўдзел у дыктоўцы. Тады таксама заняла першае месца. Апрача таго я родам з Беларусі. Маючы шэсць годзікаў мы з бацькамі прыехалі ў Польшчу.

**— Як часта цяпер наведваеце Беларусь?**

— Некалькі разоў у год ездзім у родную Гародню. Мне падабаецца на Беларусі. Калі я ўжо там, найбольш люблю хадзіць на раку Нёман. Мне здаецца, што яна такая магутная.

**— З сябрамі, з сям'ёй на Беларусі размаўляеш па-беларуску?**

— Калі я была малая, думала, што на Беларусі ўсе гавораць на беларускай мове. Але ўжо цяпер я крышку вырасла і зразумела таксама, што гэта няпраўда. Большасць размаўляе на расійскай мове.

**— А дома на якой мове размаўляеце?**

— У хаце пераважна размаўляем на расейскай мове. Але я шмат гавару сваім бацькам пра школу. Апавядаю, што адбывалася цягам цэлага дня, чаго новага даведалася. І таксама, калі я сказала, што буду прымаць удзел у беларускай дыктоўцы, яны зразу пачалі мне дапамагаць. Вучылі беларускіх слоў, практыкавалі таксама ў іх пісанні. Гэта дало мне такую ўпэўненасць, што ўдасца добра напісаць дыктоўку і гэтым разам.

**— Бацькі напэўна будуць ганарыцца Тваім поспехам?**

— Напэўна скажуць, што я вельмі таленавітая дзяўчынка. Заўсёды так мяне ўшаноўваюць за поспехі ў навуцы.

**— Віншую таксама!**

*Уршуля ШУБЗДА*

*Міра ЛУКША*

## Граб

*Серабрыста-шэры*
*ствол зайграе,*
*успомніўшы спяванне*
*тое ў гаю,*
*калі зроблены*
*з яго ў даўніну,*
*быццам з нежывой*
*ужо драўніны,*
*інструмент,*
*хоць цалкам ён з крывулі,*
*адазвецца куканнем зязюлі*
*ці мяккім*
*берасцянкі цвіркатаннем.*
*Драўніна цвёрдая,*
*устойлівая на сціранне.*
*Ствол рабрысты маладых,*
*а ў трэшчынах стары,*
*на пабудову дома*
*яго ты не бяры.*
*Парасткі й лісце*
*паядуць звяры,*
*а жоўты колер*
*атрымаецце з кары.*
*Паркет, інструмент,*
*рукаятка, шпон —*
*грабовая драўніна —*
*чысты звон.*
*А калі хочаш*
*маленькі мець бансай,*
*грабок садзі ў гаршчок*
*і добра дбай.*

Ізабела БАРОЎСКАЯ
Гімназія ў Нараўцы

## Неба

**Блакітнае неба,**
**калі свеціць сонца,**
**шэрае неба,**
**калі ідзе дождж.**
**А мы ў хаце.**
**З акна выглядаем**
**усе поры года.**
**Бо з таго пачынаецца**
**наш прыгожы дзень.**

## УВАГА КОНКУРС!

## № 10-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 13 сакавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Прыйшла яна,**
**Ільды зламала,**
**Паскорыла крынічак бег**
**І вельмі хутка паздымала**
**Кажухі белыя са стрэх!**
**В....**

**Адказ на загадкі № 6-16: арабіна. Узнагароды, кніжку Віктара Сазонава «Суседскія былі» выйгралі Марлена Лабаноўская з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім і Уля Марчук з Нараўкі. Віншуем!**

# Жыццё


Гімназісты з Нараўкі

Усё пачалося ў звычайны чэрвеньскі вечар.

Яна — дзяўчына, нічым не вылучалася сярод маладых людзей. Ну, можа толькі тым, што любіла іграць у футбол і прабываць у кампаніі хлопцаў. Не любіла сядзець з дзяўчатамі і абгаворваць іншых.

Яна была надзвычай прыгожая. Кучаравыя валасы звязаныя заўсёды ў хвосцік, далікатны макіяж і некалькі лішніх кілаграмаў дадавалі ёй толькі чароўнасці.

У адзін з летніх вечароў сябры зноў сустрэліся і пайшлі гуляць у мяч. Дзяўчына раптоўна заўважыла незнаёмага хлопца, які стаяў недалёка і з цікаўнасцю ёй прыглядаўся. Доўга не думаючы, яна падышла да яго, загаварыла і запрасіла да супольнай гульні.

Незнаёмы іграў класна і гэтым імпанаваў дзяўчыне. Апрача таго быў нейкі іншы чым яе сябры. Да ўсіх ставіўся з пашанай, а апрача таго быў надзвычай ветлівы.

Пасля матча хлопец запрасіў яе на шпацыр. Маладыя размаўлялі з сабой так, як размаўляюць добрыя, старыя сябры, якія ведаюць адзін аднаго доўгія гады. Яны расказвалі аб сабе, аб сваім жыцці. Аднак дзяўчыне трэба было вяртацца дадому. Яны абмяняліся нумарамі тэлефонаў і дамовіліся сустрэцца заўтра.

Чарговы дзень яны правялі на пляжы. Абое адчувалі, што між імі нараджаецца пачуццё.

Большую частку канікулаў яны правялі разам. Пляж, шпацыры, супольная гульня ў футбол, доўгія размовы. Мiналі раніцы, дні, вечары, а іх пачуццё развівалася, аж поўнасцю заквітнела. Хлопец прызнаўся дзяўчыне ў каханні і сказаў, што хоча быць толькі з ёю. Дзяўчына таксама кахала хлопца. Нават іхнія бацькі з сабой пасябравалі і пачалі часта сустракацца.

* * *

Верасень, пятніца.

Маладыя, так як заўсёды, пайшлі на шпацыр. Ішоў дождж і нагрэтая за дзень зямля моцна дыхала, закрываючы свет густым туманам.

Іх не заўважыў шафёр, які гнаўся недзе на сваёй машыне. Абое папалі пад колы смертаноснай машыны. Не мелі шанцу. Загінулі на месцы.

**Альжбета ХАРКЕВІЧ**
**Гімназія ў Нараўцы**


Дзяўчаты з Нарвы на сцэне

Валерыя ЛЮЛЯК
ПШ у Міхалове

## Фантазія

Калі за вокнамі дождж,
Калі вецер гудзе,
Калі ўсё шэрае і халоднае,
Я хаваюся пад пледам,
П'ю цёплую гарбату,
Чытаю кніжку, —
Я тады ў іншай краіне,
Краіне фантазіі аўтара,
Мне можна ўсё,
Я магу быць сабой!

# Вершы Віктара Шведа



## У які куток?

Сынок — малалетка
Прыехаў да дзедкі.
— Нашумеў ты тут,
Дык пойдзеш у кут.

Адказаў сынок:
— А ў які куток?
Тут куткоў без ліку
У доме вялікім.

## Праследнік

Бацька падчас снедання
Сынка свайго пытае:
— Ці настаўнік ведае,
Што я дапамагаю?

— Не ведаю, ці ведае,
Аднак ён штораз злейшы.
Заўжды мяне праследуе,
Што з кожным днём дурнейшы.

# Польска-беларуская крыжаванка № 10-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6:**

Якуцыя, мі, воск, мэр, касміт, адліга, зрок, рэ, наркоз. Вечар, яно, сказ, кадр, ці, слон, міка, міг, мэта, мір.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Караліна Кондрат**, **Мартына Лукша** з Нараўкі, **Вольга Мішчук**, **Наталля Ніканюк** з Арэшкава, **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Зузанна Асіняк**, **Оля Чабай** з Новага Корніна, **Іаанна Рута**, **Кацпэр Кэчынскі**, **Раксана Івацік** з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Strona internetowa | | Sęk / Parnas | | | Dekret | Rosa | |
| Jar | Zupa | | | | Klik | | | | |
| Rzepak | Sen | | | | Lupa | | | | |
| Marzec | | | | | | | | Rejon | |
| Rój | | | | | | | | | |
| | | | Era | | Kara / Akt | | | | |
| | | | | | | Za | | | Oraz |
| | Antena | Rak | | | | | Jod | | |
| | Samostojny | | | | | | | | |

# Шматкультурнасць Беластока - фасад?



■ Марцін Концкі (трэці злева) у рэдакцыі Радыё Рацыя

Нашумелая кніжка Марціна Концкага «Беласток. Белая сіла, чорная памяць» выклікала шмат супярэчнасцi, многа дыскусіі, спрэчак. Для некаторых гэта знявага горада і яго жыхароў. Другім, скрываная гадамі праўда пра горад і нас саміх. Таму нічога дзіўнага, што так у прыватных размовах, як і публічных дыскусіях, шмат гаворыцца пра кніжку. Была яна прычынай цыкла канферэнцый на Універсітэце ў Беластоку, з удзелам навуковых і палітычных эліт горада.

**Уршуля Шубзда: — Чаму Вы вырашылі напісаць кніжку менавіта пра Беласток? Чым гэты горад вылучаецца з ліку іншых гарадоў Польшчы?**

**Марцін Концкі**: — Гэта выпадковасць. Выдавецтва «Чорнае» звярнулася да мяне з такой прапановай. Мы ўсе задумваліся, што адбываецца ў гэтым рэгіёне, і ці так выглядае горад, ці вось менавіта так сітуацыя прадстаўляецца ў маштабе цэлай краіны. Я не меў уяўлення як разгорнуцца палітычная абставіны, як гэта ўсё будзе набрыняць, гэтая нянавісць, якую сёння бачым. Так па шчырасці, я прыехаў у Беласток не пераканаңы. Не было ў мяне ідэі на гэтую кніжку. Мне здавалася, што тая гісторыя неяк перамолатая медыямі: што тут падпальвалі, што тут жывуць фашысты...Але ім глыбей я ўваходзіў у рэчаіснасць, я зразумеў, што гэта не можа быць толькі гісторыя пра нянавісць, але таксама пра памяць. У нашай памяці, калі ёсць штосьці глыбока схаванае, не прагаворанае, не прыміранае, не прабачанае тады нянавісць з'яўляецца толькі канчатковым вынікам недахопу памяці. І гэта для мяне было самае важнае ў той час. Я сцвердзіў, што гэта сапраўды памяць і пра яе мушу пісаць. Я пішу пра яе часам проста ў вочы, а часам ускосна, сімвалічна. Да прыкладу пра ўладу, якая незацікаўленая падтрымліваннем памяці. Хіба, што гэта ўлада, якая жывіцца нянавісцю, спрэчкамі, канфліктамі.

**— Пасля прачытання Вашай кніжкі ў мяне склалася ўражанне, што Беласток мае праблему са сваёй тоеснасцю. Што пасля Другой сусветнай вайны горад прысвоіў сабе новую, іншую гісторыю.**

— Гэта наогул праблема цэнтральна-ўсходняй Еўропы пасля Другой сусветнай вайны. Гэта вынік шматлікіх перасяленняў людзей, змен межаў, халакосту, у якім габрэі амаль ушчэнт былі вынішчаныя. Разам з імі пакрысе была перарobленая, зацёртая гістарычная свядомасць таго, чым быў горад. Хто ў ім адыгрываў культуратворчую ролю? Хто займаўся гандлем? Хто быў будаўніком? Я атрымліваю шмат лістоў пасля выдання гэтай кніжкі, якія мяне шчыра парушаюць. Да прыкладу, адна жанчына піша, што жыве ўжо 50 гадоў у Беластоку непадалёк кругавой развязкі пры Універсітэце. Менавіта з кніжкі даведалася, што месца, дзе заўсёды ходзіць на прагулку, было калісьці яўрэйскім могільнікам. І зноў вяртаемся да памяці. Раптам людзі, беластачане, пачынаюць нанава адкрываць гісторыю свайго горада. І яны заўважаюць адначасова, што яна прыгожая, незвычайная. Іншая асоба напісала мне, што цяпер пачула душу гэтага горада. Піша да мяне таксама вельмі многа праваслаўных, беларусаў. Адна дзяўчына паведаміла, што з маёй кніжкі даведалася пра свайго дзядулю, які загінуў з рук «выклятых жаўнераў» Бурага. І апошні сказ яе ліста мяне асабліва парушыў. Піша: «Я не думала, што пра тыя падзеі прачытаю ў польскай кніжцы». Гэты водгук усвядоміў мне, што гэта не толькі праблема недастатковай памяці, але таксама недахопу дыскусіі, размоў, разумення гісторыі. Як гэта магчымае, што жыхарка горада баіцца ўголас гаварыць пра сваё паходжанне? Але гэта не толькі страх, гэта звычайная недагаворанасць. Некаторыя думаюць: не буду адзывацца, апрану «чорную сарочку», як гаворыць адна з гераінь рэпартажу, бо не хачу праблем на працы. Гэта прыгожы рэгіён, цудоўны, незвычайныя людзі — некаторыя абразіліся за гэтую кніжку. Я іх нават разумею — прыязджае нехта звонку і кідае такі загаловак з вокладкай, якая асацыюецца адназначна. Таму некаторыя пытаюцца: „Што з гэтым рабіць?". Адказваю: „Нічога. Калі не хочаце, не рабіце. Гэта не так, што хтосьці зверху дасць загад і маеце яму падпарадкавацца. Калі лічыце, што жывяце ў горадзе поўным любові і згоды, тады не рабіце нічога. У рэшце рэшт Беласток гэта горад міласэрнасці".

**— Сваёй кніжкай Вы навязваеце чытачу вобраз Беластока як горада без памяці, але і без талерантнасці. Ці сапраўды так ёсць на самой справе?**

— Папраўдзе кожны ў гэтай кніжцы вычытае тое, што хоча. Тое, што яму набалела — маю такое ўражанне. Некаторыя, размаўляючы са мной, звяртаюць увагу на свае адчуванні — а я нават не падумаў, што гэта ў такі спосаб можа быць успрынятае. А мо яны маюць рацыю? Толькі, калі пішацца такую кніжку, ствараецца такі аповед. Адначасова немагчыма быць тысячу чытачамі і ўяўляць сабе, а як тое, ці іншае можа быць успрынятае. Некаторыя закідаюць: ну глядзі! Як жа мы можам быць нетальерантнымі, калі мы такія гасцінныя і цудоўныя. Але сёння ўжо відаць, што гэта кніжка не толькі пра Беласток, пра Падляшша, пра аднаго ці некалькіх герояў, гэта кніжка пра нас саміх. Пра тое, як мы ўсе можам стаць нетальерантнымі, калі дзеля гэтага будуць адпаведныя абставіны. Беласток і Падляшша маюць тое няшчасце, што гісторыя над гэтым рэгіёнам наздзекавалася. Ён быў паддадзены выпрабаванню на чалавечнасць. Адны гэты тэст пераадолелі, другія не. Я ўсё ж такі песіміст. Тое, што дзеецца зараз у Еўропе, напамінае жахлівае мінулае, а ведаем якія былі вынікі. Але не мая роля, каб навязваць людзям, што ім рабіць. Увогуле не хачу апраўдвацца за гэтую кніжку. Хтосьці гаворыць, што я абвінавачваю (беластачан) у нетальерантнасці. Я адказваю: „Калі ты так зразумеў, о'кей! Можаш гэта праігнараваць, а можаш з гэтым нешта зрабіць".

**— Вы ў сваёй кніжкай правакуеце беластачан, мясцовыя эліты, якія на самой справе таксама крытыкуеце ў сваіх рэпартажах. Ці такая была Ваша мэта?**

— Рэпартаж, гэта гісторыя пра людзей. Адназначныя персанажы, якія выступаюць у гэтай кніжцы, могуць быць успрыманы як нейкая правакацыя. Нехта падумае: „Так, я быў справакаваны, таму цяпер маю права ўзяць голас і адказаць аўтару, што думаю па-другому". Гэта, з майго боку, перш за ўсё інтэлектуальная правакацыя. Даходзяць да мяне чуткі, што тут нейкія дэбаты ладзяцца, людзі дыскутуюць над кніжкай, ёсць сваркі, эмоцыі. Адны абвінавачваюць мяне, другія дзякуюць — гэта сапраўды можна лічыць правакацыяй, інтэлектуальнай правакацыяй, можна гэта адкінуць, можна пагадзіцца з гэтым і ў рэшце рэшт нешта змяніць.

**— У кніжцы можна прачытаць, што Беларускае Радыё Рацыя ствараюць аматары. Ці Вы настолькі пастаянны слухач, што можаце гэта адназначна сцвердзіць?**

— Хтосьці мне сказаў, што слухаў гэтае радыё і вывучаў на яго перадачах беларускую мову і нягледзячы на тое, што гэта паўпрафесійная станцыя, мае цікавыя перадачы. Я гэта напісаў. Гэта мая памылка. Цяпер ведаю, што Рацыю ствараюць людзі заангажаваныя, якія вераць у тое, што робяць.

**Дзякую за размову.**

**Уршуля ШУБЗДА**

**Марцін Концкі** — аўтар кніжкі «Беласток. Белая сіла, чорная памяць», выдадзенай у 2015 годзе выдавецтвам «Чорнае», журналіст штодзёнкі «Gazeta Wyborcza", рэпарцёр «Вялікага фармату». Займаецца грамадскай і гістарычнай журналістыкай. Узнагароджаны прэміяй Журналіста года ў конкурсе Grand Press (2007), дзвюма ўзнагародамі «Watergate», прысуджанымі Асацыяцыяй польскіх журналістаў (2007), узнагародай Grand Press у жанры «Журналістыка следчая» (2007).



# Прадшколле для дзяцей з аўтызмам

— Ці людзі разумеюць, што вашае прадшколле можа адмяніць жыццё дзіцяці з аўтызмам?

— Праблема ў тым, што бацькам цяжка змірыцца, што іх дзіця хворае, патрабуе дапамогі спецыялістаў. Тым больш, што аўтызм не бачны простым вокам, — кажа Агнешка Казлоўская, віцэ-дырэктар прадшколля «Вясёлкавы праменьчык». — Многія думаюць, што тыя недамаганні часовыя, што дзіця іх перарасце. А так не бывае. Праз такі падыход дзеці з аўтызмам не маюць шанцаў знайсці сваё месца ў нармальнай школе.

У садку «Вясёлкавы праменьчык» ведаюць на сваіх прыкладах, што аўтызм можна ў пэўнай ступені пакарыць, дастроіць дзіця да так званай масавай групы.

— З верасня наш выпускнік пайшоў у звычайную школу, — адзначае спадарыня дырэктар. — Мы ўсе перажывалі. Гэта быў жывы доказ, што ўсе гэтыя практыкаванні і цяжкая праца прынеслі вынік.

У прадшколлі 11 дзетак і тры групы. На кожную групу прыпадае двух настаўнікаў. У ходзе дня праводзіцца тэрапія папярэдняй дапамогі, заняткі з лагапедам, з педагогам, індывідуальныя заняткі. Адначасова тут трымаюцца праграмнай падставы, арганізуюць школьныя святкаванні як ёлка ці Дзень маці. Каб асвоіць дзяцей з жыццём грамадства, часта арганізуюць ім выхады на пошту, да фатографа, ці ў бліжэйшы магазін. Дзеці з беларускіх і праваслаўных сем'яў могуць разлічваць на кантакт з мовай продкаў, паколькі ў прадшколлі два педагогі-спецыялісты, выпускніцы бельскага беларускага ліцэя.

Прадшколле «Вясёлкавы праменьчык» працуе ў гадзінах 7.30-16.00. Знаходзіцца яно ва ўтульным памяшканні па вуліцы Куяўскай у Беластоку, у квартале Скарупы. Паколькі ёсць яшчэ свабодныя месцы, настаўнікі запрашаюць запісваць дзяцей у іх адукацыйную ўстанову. Больш інфармацыі знойдзеце на сайце **«www.teczowy-promyk.pl»**

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# «Бежэнства. Дорога і повароты 1915-1922»






**Нядаўна выйшла з друку кніжка Дарафея Фіёніка «Бежэнства. Дорога і повароты 1915-1922», трэцяе выданне з серыі «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў», якую выдае Аб'яднанне «Музей малой айчыны ў Студзіводах». Яго старшыня Дарафей Фіёнік пачаў збіраць матэрыялы да кніжкі пра бежанства 20 гадоў назад. Кніжка «Бежэнства. Дорога і повароты 1915-1922» — шыкарнае альбомнае выданне з вялікай колькасцю гістарычных каментарыяў, успамінаў, фатаграфій, дакументаў і кампакт-дыскам, на якім аповеды бежанцаў пераплецены песнямі перыяду Першай сусветнай вайны.**

— Кніжка «Бежэнства. Дорога і повароты 1915-1922» гэта дакументальная аповесць, якая сваёй пабудовай розніцца ад іншых выданняў пра бежанства. У ёй у паасобных раздзелах храналагічна распавядаецца аб падрыхтоўцы да бежанства, выездзе ў Расію і чарговых этапах бежанства, аж но да вяртання на бацькаўшчыну. Частка загалоўка «Дорога і повароты» паказвае сутнасць бежанства. Бежанцы цэлы час былі ў дарозе і хаця часта па некалькі гадоў пражывалі ў адным месцы ў Расіі, то не мелі там сваёй зямлі, прабывалі часова, як у дарозе. Нашы людзі падаліся ў бежанства, каб вярнуцца дамоў пасля сямі гадоў складанай дарогі. Наша бежанства напамінае біблейскае бежанства ізраільскага народа, які выйшаў са сваёй зямлі і вярнуўся пасля сарака гадоў. Некаторыя бежанцы ўсхвалялі сваю пабыўку далёка ад дома. Напрыклад, Іван Нэстэрук з Сакоў, будучы дзесяцігадовым хлопцам, запамятаў манну нябесную каля Дона. Калі яго дапытваліся, якая гэта была манна, ён гаварыў, што смакавала як трускалкі. Затое Тацццяна Асташэвіч з Ягуштова параўнала сваё бежанства з сусветнай трагедыяй. Калі там, дзе яна была, людзі хварэлі на тыф і халеру, яна гаварыла, што ніхто тады не думаў, што людзі яшчэ застануцца жыць на свеце, — расказваў пра сваю кніжку Дарафей Фіёнік, якога я наведаў у Студзіводах. — Я ў кніжцы даю гістарычныя каментарыі да ўспамінаў бежанцаў, папаўняю іх фатаграфіямі і дакументамі перыяду Першай сусветнай вайны і пасляваеннага часу. Выданне простае да чытання, але кніжка была складаная да напісання. Успаміны бежанцаў трэба было дзяліць і прызначаць да паасобных раздзелаў кніжкі. Само напісанне кніжкі не было доўгім, але доўжылася збіранне матэрыялаў. У кастрычніку мінулага года я ў пэўны момант дайшоў да вываду, што магу не паспець напісаць кніжку. Пасля пераадолеў цяжкасці і работа пайшла поўным ходам. Калі быў ужо духоўны ўздым, пісалася добра і я стараўся паспець выдаць кніжку, на якую мы атрымалі сродкі ад Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі ды спонсараў. Было многа матэрыялаў і кніжка атрымалася буйнейшай, чым планаваў я раней. Выданне дапамагала мне падрыхтаваць група асоб, сярод якіх быў мой сын Максім. Падрыхтаваў ён кампакт-дыск з расказамі бежанцаў і песнямі перыяду Першай сусветнай вайны, якія былі запісаны, між іншым, ад мужчын з вёскі Малешы ў канцы 1960-х гадоў і ад квартэту «Рада» з Мінска. Слухаючы спеў малешаўскіх мужчын, адчуваецца атмасфера пачатку XX стагоддзя.

У кніжцы «Бежэнства. Дорога і повароты 1915-1922» Дарафей Фіёнік распавядае пра жыццё на Падляшшы перад бежанствам, паведамляе, як састаўляліся вопісы маёмасці жыхароў перад выездам і распавядае пра Бельскую бітву. У выданні апісана жыццё ў час нямецкай акупацыі і падчас дарогі ў глыб Расіі. У кніжцы змешчаны статыстычныя даныя і апісана дапамога бежанцам. Распавядаецца пра лёсы святароў, эвакуацыю і вяртанне царкоўнай маёмасці. Больш дэталёва апісаны Кленікі перад і ў час бежанства, бежанцы з-пад Нарвы, публікуюцца ўспаміны жыхароў вёсак Рудуты, Шарні і Тапаркі. Распавядаецца пра бежанства жыхароў Шчытоўскага прыхода, расказваецца пра Нестара Перавоя і Беларускую народную грамаду, якія дапамагалі бежанцам. Змешчаны ў кніжцы раздзел «Бежанства ў апісанні Супруна Кавэрды з Катлоў» і апісваецца вяртанне бежанцаў на радзіму. У новым выданні змешчаны таксама здымкі, якія былі зроблены летам мінулага года ў Студзіводах падчас рэканструкцый «Бежанства» і «Бельская бітва».

— Бежанства было вельмі вялікай трагедыяй нашага насельніцтва, нават намнога большай ад трагедыі Другой сусветнай вайны на нашай тэрыторыі. Калі ў нейкай сям'і ў час апошняй сусветнай вайны загінула частка асоб, то апошнія сямейнікі заставаліся. Калі немцы спалілі дом і гаспадарчыя будынкі, можна было жыць у сваякоў, абрабляць поле і адбудоўвацца. Падчас бежанства людзі жылі далёка ад роднага дома і там не было ў іх ні зямлі, ні маёмасці. Пасля вяртання часта бачылі зарослае самасеем поле і спаленыя будынкі, — распавядаў Дарафей Фіёнік.

Умовы падчас дарогі ў глыб Расіі былі вельмі дрэнныя. Бывала, што чарга фурманак з бежанцамі цягнулася на 40 кіламетраў. На вагонах адпраўляліся з паасобных чыгуначных вузлоў сотні тысяч бежанцаў. У бежанства падалося 3 мільёны 200 тысяч людзей, сярод якіх беларусы, расіяне і ўкраінцы састаўлялі 54% ад агульнай колькасці ўсіх уцекачоў, палякі састаўлялі 16%, латышы — 9%, а жыды — 6%.

— Пасля рэвалюцыі ў Расіі запанавала бязладдзе. Бежанцы сталі вялікім цяжарам для мясцовага насельніцтва, якое само галадала. Добра, што нашы арганізацыі выпатрабавалі згоду ў савецкіх улад на вяртанне нашых людзей дамоў, якое было яшчэ больш складаным, чым дарога ў глыб Расіі. Бывала, што энкавэдысты або іншыя службоўцы забіралі нашым людзям нават тое, што тыя зарабілі, працуючы на нейкай фабрыцы далёка ад дому, — гаварыў Дарафей Фіёнік.

— Навукова-папулярнае выданне беларускага гісторыка і краязнаўцы Дарафея Фіёніка «Бежанства. Шлях і вяртанне 1915-1922», якое падрыхтавана для выхаду ў свет пад эгідаю Музея малой айчыны ў Студзіводах — унікальны прыклад грунтоўнай і адначасова прывабнай асветы пра векапомныя падзеі бежанства Першай сусветнай вайны. (...) Кніга Дарафея Фіёніка — сведчанне таго, што тэма бежанства ўжо назбірала пэўны эмпірычны матэрыял і пэўную аналітыку, якія ўжо даюць падставу для складання навукова-папулярнага і асветніцкага апавядання. Акцэнты зробленыя аўтарам і аспекты гісторыі бежанства, на якія накіраваў ён увагу чытача, будуць мець уплыў на далейшую справу вывучэння і выкладання гэтай старонкі гісторыі Беларусі і Польшчы, — напісаў гісторык Віталь Карнялюк з Гродна аб студзіводскім выданні.

Кніжку «Бежэнства. Дорога і повароты 1915-1922» Дарафей Фіёнік прысвяціў памяці айца Рыгора Сасны, ад якога вучыўся пісаць гістарычныя кніжкі і з якім доўга супрацоўнічаў. У мяшчанскім доме Музея малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік плануе адкрыць бібліятэку, чытальню і навуковую лабараторыю імя айца Рыгора Сасны. Можа яна стаць праваслаўным, беларускім цэнтрам пад патранатам мітрафорнага протаіерэя Рыгора Сасны, які пакоіцца на могільніку ў Бельску-Падляшскім. Дарафей Фіёнік удакладніў, што вялікая частка бібліятэкі айца Рыгора перададзена ў Студзіводскі музей, дзе ёсць таксама ўсе нумары нашага тыднёвіка «Ніва», якія збіраў айцец Рыгор. У гэтай бібліятэцы былі б таксама кніжкі з бібліятэкі Яраслава Касцыцэвіча і айца Канстанціна Байко.

— Чарговай кніжкай, якую планую выдаць у гэтым годзе ў серыі «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў», будзе выданне пра айца Канстанціна Байко. Да кніжкі сабрана ўжо многа матэрыялаў, але планую яшчэ запісаць выказванні людзей, якія ведалі айца Канстанціна. Дагэтуль кніжкі з серыі «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў» былі напісаны мною і Генадзем Семенчуком з Гродна. Мне хацелася б, каб аўтарамі выданняў гэтага цыкла былі таксама іншыя асобы. Хачу запрапанаваць выданне кніжкі пра археалогію Падляшша іншай асобе. Усе выданні згаданай серыі друкуюцца паводле прынцыпу 80% зместу на падляшскай мове і беларускай літаратурнай мове, а 20% — на польскай мове, — сказаў Дарафей Фіёнік.

Прамоцыя кніжкі «Бежэнства. Дорога і повароты 1915-1922» адбудзецца **6 сакавіка ў пятнаццаць гадзін у Гарадской публічнай бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім**. Варта яе прыдбаць, каб ведаць, як нашы продкі перажылі сваю вялікую трагедыю — бежанства.

Аляксей МАРОЗ

1 ☞ працяг

# Марш!

Праз некаторы час, гледзячы ў акно, змяняе тэму:

— Мой дзед быў выдадзены ў 1940 годзе праваслаўным беларусам і расстраляны. Ён быў дарожным назіральнікам, на малой станцыі Нязнаны Бор, «Нязнайцы». На яго данёс калега, што мой дзед дапамагае партызанам, што іх корміць. Забралі яго ў Беласток. Калі туды паехала мая мама, у той час 14-гадовая, каб занесці нейкую ежу і вопратку, расіянін сказаў толькі: «Ему ничего уже не надо». Невядома, што з ім здарылася. Мама расказвала жудасныя рэчы, якія з ёю і з сям'ёй выраблялі расіяне ў той час. Дзядуля быў пілсудчыкам. І ў гэтым духу я быў выхаваны ў хаце.

Затым пералічвае:

— У 2013 годзе 3 мая праваслаўныя мелі Страсную пятніцу. Нашы каталіцкія святары адклікалі тады марш, які ў гэты дзень таксама мы арганізавалі з нагоды свята Канстытуцыі. Мы хацелі зрабіць маршы на Богаяўленне («Трох каралёў»). Як Каталіцкая акцыя мы мелі нават вярблюды і касцюмы з тэатра. Гайнаўскія ксяндзы ў канчатковым рахунку не згадзіліся таму, што ў той час праваслаўная куцця. У апошнюю суботу апошняга карнавалу, як некалькі гадоў, Акцыя зрабіла каталіцкі дабрачынны баль. У гэтым годзе адно з праваслаўных брацтваў раптам у той жа дзень таксама такі баль сарганізавала. Гэтага не можа быць. Канец такому ўступанню.

25 лютага Рада Гайнаўскага павета па просьбе старшыні Міхаляка прапануе ўшанаваць хвілінай маўчання памяць салдат праклятых з нагоды іх свята, устаноўленага парламентам 1 сакавіка. Член рады **Вольга Рыгаровіч** пытаецца:

— Капітана Райса і яго атрада таксама?

Старшыня пацвердзіў і не дапусціў ужо радная да голасу. Усхваляваная з некалькімі іншымі раднымі тая пакідае залу:

— Я схіляю галаву перад праклятымі жаўнерамі, але я не буду пакланяцца кату. На наступнай сесіі я буду прасіць вынесці вотум недаверу старшыні Міхаляку. Я член рады, легальна абраная жыхарамі. Ніхто не мае права абмяжоўваць мяне ў галасаванні як радная, выступаючай ад імя выбаршчыкаў.

Астаўшыеся ў зале радныя ўшанавалі канчаткова праклятых салдат. Усіх.

❖ ❖ ❖

Гарадская рада Гайнаўкі заявы адносна ўшанавання закатаваных жыхароў вёсак Гайнаўскага і Бельскага паветаў, якія памерлі ў 1946 годзе з рук салдат «Бурага», не прымае. 14 лютага, па прапанове сямнаццаці радных (з агульнага ліку 21) ад Камітэта Гайнаўская зямля і ПСЛ, ушаноўвае памяць ахвяр хвілінай маўчання. Радны ад Права і справядлівасці, каталіцкі катэхет з Нараўкі, 48-гадовы Багуслаў Лабэндзкі, які ўзначальвае Гістарычную асацыяцыю імя Дануты Седзікуўны «Інкі», падчас ушанавання ахвяр «Бурага» выходзіць з залы пасяджэння.

Адзін з актыўных гайнаўскіх грамадскіх дзеячаў (прасіў аб ананімнасці):

— Лабэндзкі стаіць у цяні, але то ён кіруе гайнаўскімі нацыяналістамі. Чалавек ценю. Стаіць за кулісамі, але на самой справе ён з'яўляецца лідарам крайніх правых у Гайнаўцы.

За тыдзень да пачатку маршу, Тэлебачанне Падляссе паказвае гадзінныя дэбаты пра марш і «Бурага». Удзел прымае **Багуслаў Лабэндзкі**:

— Я з радасцю вітаю той факт, што сярод маладых людзей у Гайнаўцы, якія ўключылі сябе ў арганізацыю маршу, з'яўляецца вельмі высокі адсотак праваслаўнай моладзі. Праваслаўная моладзь сярод Салдат праклятых шукае ўзораў для сябе (...). Я б не выкарыстоўваў тут тэрміну генацыд, таму што не было гэта даказана, у дадзеным выпадку, гэта толькі тэзіс пракурора Альшэўскага з ІНП з абвінаваўчага заключэння, якое не было прадстаўлена ў суд (...). Там няма ніякага апраўдання ў агульначалавечым разуменні, але гэта суправаджалася некаторым кантэкстам (...). Маем рэабілітацыйны прысуд «Бураму» і трэба гэтага трымацца.

Бургамістр Гайнаўкі **Ежы Сірак**. 59 гадоў гадоў. Паляк-католік. Заўсёды бездакорна апрануты. Жонка праваслаўная. Дзеці хрышчаныя ў праваслаўнай царкве. Абраны з левага камітэта Гайнаўская зямля:

— Усе крокі былі зроблены ў адпаведнасці з законам, калі гаворка ідзе пра арганізацыю маршу. Мяне турбуе тое, што ў Гайнаўцы жывуць людзі, у якіх ёсць такія ідэі і рэалізуюць такія праекты. Для мяне асабіста гэта відавочная правакацыя, накіраваная на праваслаўныя беларуская суполкі нашага горада. Няма ніякіх сумненняў у тым, што капітан Райс з'яўляецца спрэчным чалавекам і дзеянні яго войска насілі прыкметы генацыду, і ён, як камандзір, нясе адказнасць. Гэта абавязак усіх грамадзян Гайнаўкі і непасрэдна яго ахвяр — памяць пра іх. Асабліва раздражняе тое, што гэтыя дзеянні зрабілі людзі ў мундзірах салдат польскай арміі. Калі казаць у катэгорыях, ці «Буры» з'яўляецца злачынцам або героем, у маім разуменні свету, людзей і гісторыі, ён не герой, хаця гэта трагічная асоба. Я не сумняваюся, што ў першым перыядзе ён змагаўся за вольную Польшчу, але тое, што ён зрабіў тут, руйнуе ўсе яго дасягненні. Ён не можа быць прыраўнаны да іншых праклятых салдат, бо гэтым самым нясе шкоду сапраўдным героям. Таксама цяжка для мяне, каб у гэтую групу герояў прылічыць «Лупашку».

**Старшыня Міхаляк**, які штодзень працуе ў бюро на тым жа паверсе, што і бургамістр — у аддзеле жыллёва-камунальнай гаспадаркі і навакольнага асяроддзя:

— «Буры» павінен быць трактаваны на адным узроўні з іншымі праклятымі салдатамі, таму што ён рэабілітаваны судом. Калі пракурор ІНП думае інакш, павінен стварыць новы пазоў. Такім чынам, у адпаведнасці з рашэннем суда — ён герой. Неабходна прытрымлівацца закону. «Буры» не з'яўляецца галоўным героем маршу. Гэты марш памяці ўсіх салдат праклятых, як і ва ўсёй краіне, але ў Гайнаўцы атрымалася так, як атрымалася...

(заканчэнне праз тыдзень)

---



**http://chicagobelaruskids.wix.com**

Шмат рассеяных па свеце народаў трымаецца сваёй тоеснасці, стараецца не толькі захаваць мову і культуру, але і перадаць гэтую спадчыну сваім дзецям. Беларусы ў гэтым плане людзі своеасаблівыя. Не надта клапоцячыся аб захаванні роднай мовы і традыцый на ўласнай зямлі, не шчыруюць яны дзеля гэтага і ў замежжы. Гэта як правіла, але ў кожным правілы маюць месца і выключэнні, у даным выпадку, прыемныя. Адным з такіх выключэнняў з'яўляецца беларуская суполка ў амерыканскім Чыкага, якая напрыканцы 2014 года стварыла дзіцячы гуртох беларускай мовы і культуры.

«Мы збіраемся, каб разам знаёміцца з беларускай культурай і мовай, чытаць казкі і гісторыі, маляваць, майстраваць, гуляць, спяваць, танцаваць, святкаваць святы, і проста сябраваць!» — гаворыцца на галоўнай старонцы сайта дзіцячага гуртка «Чароўная стужка», які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://chicagobelaruskids.wix.com**.

Уласна сайт гуртка, як мае быць, аформлены ў яскравых колерах, з падкрэсленна нацыянальным беларускім зместам. Фонам яго з'яўляецца нешта накшталт плеценага кошыка, у якім ляжаць стужкі з нашым арнаментам. Усе выйсці на рубрыкі месціцца ўверсе цэлага выяўлення, а ніжэй за прэзентацыю гуртка падаецца крыху больш падрабязная інфармацыя — пра тое, што заняткі ў ім праходзяць па суботах два разы на месяц. «Праграма для дзяцей рознага ўзросту. У нас разам займаюцца дзеткі ад 3 да 13 гадоў. Калі вы не размаўляеце па-беларуску — у нас усе добра размаўляюць і разумеюць па-руску. Далучайцеся!» — заклікаюць стваральнікі гуртка, адзначаючы, што ўваход для дзяцей платны. Так, за адно дзіця трэба заплаціць 10 долараў, а 15 — за дваіх.

Да такога прэйскуранта цяжка паставіцца адназначна, бо з аднаго боку людзі робяць беларускую справу і, здавалася, аб нейкай манетызацыі мовы быць не можа, але з другога — яны ж выдаткоўваюць свой час і, пэўна, сродкі на дзейнасць гуртка, таму гэтая праца мусіць быць неяк аплачана. Праўда, як тут не ўзгадаць савецкую прапагандысцкую страшылку пра «зявярыны аскал амерыканскай рэчаіснасці».

Таксама на галоўнай старонцы мы знойдзем тых, хто ўзяўся перадаваць свае веды беларускім дзецям за акіянам. Гэта Марына Мікульская, Таццяна Зіміна і Аляксандр Полазаў. Паколькі філолагам там ёсць толькі адна Марына Мікульская, то менавіта ёй варта было б паклапаціцца, каб у тэкстах сайта выкарыстоўвалася літара «ў», а такія выразы-русізмы, як «два сына» не мелі там месца. Асабліва, калі за сваю грамадскую працу настаўнікі выраашылі браць грошы.

Першы занятак гуртка, як сведчыць рубрыка «Галерэя», адбыўся 11 лістапада 2014 года. Потым, калі верыць размешчаным на сайце фотаздымкам, было некалькі наступных сустрэч настаўнікаў з дзецьмі і іх бацькамі. Але чамусьці ўсё заканчваецца мінулагоднімі Калядамі. На сумныя думкі аб спыненні заняткаў наводзяць каментарыі ў рубрыцы «Бацькам», дзе першая і апошняя падзяка была выказана арганізатарам гуртка год таму, а таксама адсутнасць інфармацыі ў рубрыцы «Расклад заняткаў».

Нягледзячы на тое, што, магчыма, заняткі ў «Чароўнай стужцы» скончыліся, сайт гуртка не перастае выконваць сваю функцыю. І, між іншым, з-за таго, што на ім месціцца спасылкі на карысныя рэсурсы для тых, хто хоча перадаць сваім дзецям беларускую мову і культуру.

❖ **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

Дата з Календара

Класік беларускай байкі

# 120 гадоў з дня нараджэння Кандрата Крапівы

Беларускі пісьменнік, паэт, драматург, сатырык, літаратуразнавец Кандрат Крапіва (сапраўдное прозвішча Атраховіч) нарадзіўся 5 сакавіка 1895 г. у вёсцы Нізок (цяперашні Уздзенскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе ў сваёй вёсцы, потым ва ўздзенскім народным вучылішчы, чатырохкласным гарадскім вучылішчы ў Стоўпцах, адкуль пераведзены ў такое ж вучылішча ў Койданава (цяперашні Дзяржынск). Пасля заканчэння вучобы ў 1913 г. экстэрнам здаў экзамен на народнага настаўніка. Увосень 1914 г. атрымаў месца настаўніка ў пачатковай земскай школе ў вёсцы Мнішаны на Міншчыне. Пасля таго, як адпрацаваў год, быў мабілізаваны ў войска — якраз ішла Першая сусветная вайна. У сакавіку 1916 г. скончыў Гатчынскую школу прапаршчыкаў. Удзельнічаў у баях на румынскім фронце. Быў дэмабілізаваны ў 1918 г. Настаўнічаў у вёсцы Каменка на Уздзеншчыне. У 1920-1923 гг. быў у Чырвонай Арміі. Потым зноў працаваў настаўнікам у родных мясцінах — у мястэчку Астравок.

У 1925 г. Кандрат Атраховіч пераехаў у Мінск. Быў сябрам літаратурнага аб'яднання „Маладняк", пасля — „Узвышша". Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ ў 1930 г. Працаваў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, загадчыкам аддзела ў часопісе „Полымя рэвалюцыі". Удзельнічаў у паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, у савецка-фінскай вайне. У Другую сусветную вайну працаваў у розных савецкіх франтавых газетах, рэдагаваў сатырычную газету-плакат „Раздавім фашысцкую гадзіну". Пасля вайны тры гады быў рэдактарам папулярнага часопіса „Вожык". Пасля працаваў загадчыкам сектара мовазнаўства Інстытута мовы і літаратуры АН БССР, дырэктарам Інстытута мовазнаўства.

Кандрат Атраховіч займаў у БССР таксама высокія дзяржаўныя пасады, удзельнічаў у працы І сесіі Генеральнай асамблеі ААН, з 1956 г. і ажно па 1982 г. — віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік, неаднаразова абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, быў яго старшынёй. Але ў народзе Кандрата Крапіву любілі зусім не за гэта, а за вострае дасціпнае слова. Пачаў ён друкавацца яшчэ ў 1922 г. Найбольш вядомыя творы — байкі, якія разышліся на цытаты, п'еса „Хто смяецца апошнім". Тварыў пісьменнік да глыбокай старасці — так меладрама „На вастрыі" была ім напісана ў веку 86 гадоў. Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы свету. Усяго ў Беларусі выйшла каля 25 розных выданняў яго твораў.

Памёр Кандрат Крапіва 7 студзеня 1991 г., пахаваны на мінскіх Усходніх могілках. Імем пісьменніка названы вуліцы ў беларускай сталіцы і раённым цэнтры Узда, у Мінску на доме па праспекце Незалежнасці, дзе ён жыў, усталявана мемарыяльная шыльда. У гонар Крапівы названы Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. А ў 1996 г. Белпошта выпусціла да юбілею пісьменніка адмысловую марку.

❖ **Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дабрывадская «Вінніца»


■ Міхал Зіневіч са сваімі напіткамі

Сужонства Міраслава і Міхал Зіневічы — чыгуначныя пенсіянеры. Міхал падаўся на пенсію ў 2010 годзе пасля саракагадовага стажу працы. Прафесійны шлях пачынаў з рамесніка, затым працаваў майстрам, старшым майстрам, кіраўніком рамонтнай майстэрні ды намеснікам начальніка паравознага дэпо. Пасля чыгуначнай рэструктурызацыі даверылі яму пасаду старшага майстра Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу. З гэтакім званнем выйшаў на пенсію.

Спадарыня Міраслава адзінаццаць гадоў працавала ў паравозным дэпо загадчыцай рабочай сталовай. Праз два летнія сезоны ў 1995-1996 гадах выконвала абавязкі кіраўніка Асяродка чыгуначнага адпачынку ў Франалове над Бугам. Зараз сужонства Зіневічы займаюцца агратурызмам. Аграгаспадарку назвалі «Вінніцай». Гэта шыкарнае месца для адпачынку. Асобны домік мяжуе з двухпавярховым будынкам гаспадароў на супольнай сядзібе. Дзве асобныя веранды дазваляюць гасцям на свабодны адпачынак. Восем начлежных месцаў размешчаны ў трох спальнях. Шыкарна абсталявана кухня. Магчымасць рыхтавання гарачых страў (можна таксама пакарыстацца гаспадарскімі смачнымі стравамі). На панадворку знаходзіцца месца для вогнішча, а ў куточку агародчыка камін прыстасаваны для грыля. Непадалёк прадуктовая крама багата забяспечана чаромхаўскім прадпрымальнікам Янушам Ліпінскім. Аматараў веласіпедных вандровак чакаюць чатыры ровары для прагулак. А самае асноўнае — саўна. Варта адзначыць, што дабрывадскія лясы багатыя ў ягады і грыбы. Гэтыя вабяць гарадскіх грыбнікоў не толькі з наваколля Гайнаўкі, але і аддаленых на сто кіламетраў Седльцаў. Агратурыстычная кватэра Зіневічаў пачала гаспадарчую дзейнасць з 2002 года. Вядзецца тут своеасаблівая хроніка. Першымі 7 чэрвеня 2002 года ўпісаліся члены гурта «HEPPY EMBRY", якія ўдзельнічалі ў чаромхаўскім фольк-фестывалі «З вясковага панадворка».

Асаблівасцю для курортнікаў з'яўляюцца смачныя напіткі дамашняга вырабу. Нядаўна мне прыйшлося пагасцяваць у «Вінніцы» ды пакаштаваць «смакоцці». А ёсць чым пахваліцца: смачнае вінаграднае віно — першая ўзнагарода на кулінарным конкурсе «Спадчына Падляшша» ў 2013 годзе; цёмнае віно «Яблычная роскаш», белае віно «Антыпуцінаўка», вострая вінаградная наліўка «Душагрэйка» (лімон, мёд, перац, чылі), прыдатная пры прастудзе і хворым страўніку. Для гэтага напітку гаспадар прыдумаў своеасаблівае шасцірадкоўе:

*Przeziębienie Cię dopadnie,*
*niestrawności masz w żołądku.*
*Łykniesz trunku kieliszeczek*
*i już czujesz się w porządku.*
*Lecz pamiętaj Ty cymbale,*
*jeśli jedziesz — nie pij wcale.*

Напіткі дамашняга вырабу Зіневічаў узнагароджаны шматлікімі прэстыжнымі граматамі і вылучэннямі. Некалькі год таму ў «Вінніцы» мы сустрэліся з Міхасём Куптэлем, шматгадовым ніўскім карэспандэнтам з Узбярэжжа. У народзе кажуць: «Гара з гарою не сходзяцца, а чалавек з чалавекам заўсёды». Так было з намі. Дык лічу, што Усявышні дазволіць нам яшчэ не раз сустрэцца ў дабрывадскай «Вінніцы» і пакаштаваць смачныя напіткі дамашняга вырабу спадарства Зіневічаў.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## Зуброў усё больш і больш

Зараз у Белавежскай і Кнышынскай пушчах жыве 578 зуброў. Семдзесят пяць прыйшло на свет у 2015 годзе. У папярэднія гады нараджалася іх 50-60. Гэтыя магутныя капытныя жывёлы жывуць на тэрыторыі чатырох надлясніцтваў: Белавежа, Броўск, Гайнаўка і Жэдня. Дваццаць зуброў вывезлі для размнажэння ў далёкую Іспанію.

У апошнія гады ўсім лясным звярам, у тым ліку і зубрам, лягчэй пратрываць зіму, паколькі зімы былі без вялікіх марозоў ды вялікіх снежных ападкаў. Снег ляжаў раз-другі па некалькі дзён. Дні наогул стаялі даволі цёплыя, а прымаразкі былі ноччу. Такія зімы дазволілі пражыць халады нават слабым зубранятам.

Белавежскія зубры займаюць 200 тысяч гектараў лясной плошчы. Усё ж выходзяць яны — 250 штук — па-за лясны масіў да вёсак ды на сялянскія сельскагаспадарчыя палеткі і робяць шкоду ў збожжавых і караняплодных культурах.

**(яц)**

## Да 60-х угодкаў „НІВЫ"

Беласток, сакавік 2016 года

Паважаны галоўны рэдактар!
Шаноўныя супрацоўнікі „Нівы"!

Сардэчна віншуем Вас з 60-гадовым Юбілеем тыднёвіка беларусаў у Польшчы і зычым „Ніве" і яе рупліваму калектыву журналістаў даўгалецця ды далейшага плённага служэння нашаму беларускаму насельніцтву.

За Вамі — выдатная, багатая гісторыя „Нівы", а перад Вамі — усё расхінутая прыгожая перспектыва ініцыявання шматлікіх культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў, праніклівага аповеду пра штодзённыя клопаты і радасці простых людзей, адлюстравання праблем беларускага школьніцтва, беларускіх грамадскіх арганізацый, а таксама польска-беларускага супрацоўніцтва на ўсіх узроўнях узаемадачыненняў...

Будзьце!

**Управа Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа"**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

1. ільдзіна на рацэ, 2. аўтаматычнае прыстасаванне для выкідвання з самалёта лётчыкаў, 3. панскі конны экіпаж на рысорах, 4. непацверджаная вестка, 5. дол, 6. маладое пакаленне, 7. карэнны жыхар, напрыклад, Аўстраліі, 8. сцябліна, 9. вёска, 10. бакоўка ў вясковай хаце.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | | | 2 | 3 |
| | | | 4 | | | | | | | | |
| | | 5 | | | 6 | | | | | | |
| | 7 | | | | | | | | | | |
| 8 | | | | | 9 | | | | 10 | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Вецер, вочы, гаць, зона, ом, Русь, Чыта, шаша, Шырын.

Рашэнне: **Чаго не вырашыць наш розум, тое вырашыць час**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# 06.03 — 12.03

**(22.03. — 20.04.)** Магчымыя значныя паляпшэнні фінансавага становішча. Каб павялічыць капіталы, абматай медную манету або папяровую купюру зялёнай ніткай так, каб атрымаўся сярэдніх памераў клубок. Умацуй яго, каб не мог разматацца, затым капні на яго тры кроплі эўкаліптавага або бергамотавага алею і падвесь яго на вольным канцы ніткі над уваходнымі дзвярыма. Усе, хто пройдзе праз дзверы, будзе імкнуцца прыносіць у твой дом грошы і падарункі. Змазвай клубок эфірным маслам кожную сераду.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымая небяспека, звязаная з агнём, маланкай і электрычнасцю. Для абароны сваёй хаты збяры крыху попелу з печы і начытай на яго замову: «Тое, што раз агню аддадзена было, другі раз у агонь не пойдзе». Развей гэты попел над дахам дома, прамаўляючы: «Агонь нябесны ў нябёсах застаецца, агонь зямны ў зямлі прырасце, усяму свой час, усяму сваё месца, усяму свая чарга». Калі ў цябе няма печы, абыдзі вакол дом, трымаючы ў руках галінку крапівы, а пасля гэтага вымый крапіўным настоем падлогі ва ўсіх пакоях. У час навальніцы пастаў мятлу ў брамцы прутамі ўверх і прамоў: «Абаронена гэтае месца ад стрэл нябесных, ад вятроў ураганных праз слова, праз справу, праз думку маю».

**(22.05. — 22.06.)** Будзь асцярожны і не прымай падарункаў ад малазнаёмых і тым больш ад добравядомых людзей, бо круцяць. Па магчымасці пазбягай месцаў вялікай колькасці людзей і масавых мерапрыемстваў, перанясі на іншы час паход у кіно ці ў тэатр.

**(23.06. — 23.07.)** Добры час для атрымання новых ведаў і набыцця новага вопыту, наведвання курсаў і семінараў. Верагодныя эмацыйныя праблемы ў адносінах з любімым чалавекам. Калі ты на працягу некаторага часу пазбягаў таго, з кім раней меў любоўныя адносіны, то цяпер ён не самым лепшым чынам нагадае табе пра сваё існаванне.

**(24.07. — 23.08.)** Выдатны час для змены ці дапаўнення гардэроба. Толькі не купляй танных рэчаў: за іх таннасць давядзецца табе расплачвацца ў самы бліжэйшы час. Будзь гатовы да прыходу няпрошаных гасцей; гэта могуць быць якія-небудзь кузуркі — прусакі, блашчыцы або мурашы!

**(24.08. — 23.09.)** У тваім жыцці адбудзецца нешта новае і незвычайнае. Тваё мінулае, нейкія даўно забытыя падзеі зноў нагадаюць пра сябе. Магчымыя сустрэчы з даўнімі знаёмымі. Не грэбуй сваімі абавязкамі: тое, што ты абяцаў, выканай. Неабходна зрабіць некаторыя абнаўленні хатняга інтэр'еру.

**(24.09. — 23.10.)** Першыя дні тыдня можа цябе праследаваць бязладзіца, звязаная як з няважным самаадчуваннем, так і з магчымымі рознагалоссямі паміж табой і іншымі людзьмі. У другой палове тыдня супрацьлеглы пол будзе праяўляць павышаную цікавасць да тваёй персоны, і варта гэтым скарыстацца!

**(24.10. — 22.11.)** Час для кахання ці яго пошукаў. Засушы кветкі ружы або язміну. Калі табе захочацца прыцягнуць да сябе ўвагу ўпадабанага чалавека, пакладзі гэтыя сухія кветкі ў невялікі кубачак, спырсні іх спіртам і падпалі. Калі агонь дагарыць і пойдзе дым, нашапчы: «Як гэты дым гарыць і растае, так гарыць і растае сэрца і душа ў раба Божага ... (імя) па мне, рабе Божай ... (імя)». Калі адламалася або зусім зламалася ножка крэсла, на якім ты сядзеў, гэта азначае сур'ёзны канфлікт са сваякамі жонкі ці мужа. Каб пазбегнуць прадказанага разладу, трэба насіць у кішэні лаўровы ліст.

**(23.11. — 22.12.)** Чакаюць цябе эмацыйныя праблемы з любімым чалавекам. Нагадае пра сваё існаванне былое каханне. Калі ўпусціш заручальны пярсцёнак і ён будзе доўга каціцца па падлозе, гэта знак нетрывалага сужонства. Калі ж кольца адразу ўпадзе на бок і спыніцца, гэта азначае магчымасць захавання шлюбных адносін.

**(23.12. — 20.01.)** Праявы неспрыяльнай энергетыкі могуць выклікаць у тваім жыцці хаос і напружанне. Адмяні планы і надай больш увагі свайму здароўю. Для абароны ад магчымай псуты і урокаў загавары буйную соль: «Кожнаму псую і сурочніку солі ў вочы, пяску гарачага, агню пякучага!». Насі некалькі дробак гэтай солі ў кішэні свайго адзення.

**(21.01. — 19.02.)** Чым бы ты ні займаўся, твае старанні не прападуць дарма. Рызыка будзе мець станоўчы вынік і забяспечыць табе спрыяльную будучыню. Выгаднымі будуць здзелкі з нерухомасцю. Твае лепшыя дарадцы — інтуіцыя і ўяўленне. Толькі не пляці: занадта шмат вакол цябе цікаўных вушэй.

**(20.02. — 21.03.)** Чакае цябе значнае павелічэнне прыбытку і іншыя прыемныя нечаканасці на працы, у справах і ў бізнесе. Наогул можаш нічога не рабіць і ўсё роўна мець поспех ва ўсіх сферах. Аднак будзь асцярожны з новай інфармацыяй і не прымай неабдуманых рашэнняў. У канцы тыдня абмяркуй свае адносіны з каханай асобай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (34)

Вы хоць не фатаграфуйце мяне ў гэтым адзенні, а то яшчэ падумаюць, што бацюшка — „бандэравец"!

— Не падумаюць, у нас не разбіраюцца ў такіх дэталях, — кажу, каб супакоіць гаспадара. — Хутчэй будуць праціраць вочы, хваліць і яшчэ ў прыклад вас ставіць.

— А за што ж мяне хваліць? — здзіўляецца святар.

— За тое, што любіце працаваць у полі. У нас такога не сустрэнеш...

— Тады здымайце, — пагаджаецца з усмешкай айцец Паўло Дубянец, настаяцель прыхода ў Марочным, — няхай будзе праўдзіва.

На плябанію я завітала без ранейшага папярэджання, проста з вуліцы. Бацюшка якраз збіраўся ў поле. Ён быў апрануты ў рабочыя апранахі, то-бок, вайсковыя камуфляжныя штаны, тужурак „поляр" і пластмасавыя лапці. Можна сказаць, што ён прыдзеў самы сучасны народны палескі мужчынскі строй. Ды не толькі палескі! У камуфляжныя апранахі адзяваюцца ўсе мужыкі Украіны — ад прэзідэнта па калгасніка. Крамлёўская прапаганда мігам адрэагавала на ўкраінскую моду. Здымкі мужчын у камуфляжы, няважна хто ён — пастух ці баец, без разбору ставіць у якасці жывых прыкладаў сучасных „бандэраўцаў". Смешна і страшна! Ніхто не кажа, што камуфляжныя апранахі — самыя танныя і даступныя на рынку. Той, хто апранае іх на цела, не думае, што скарыстаюць яго імідж у варожай прапагандзе.

Айцец Паўло — натхнёны святар, даследчык гісторыі хрысціянства і дваранства на Палессі, прызнаны краязнавец і журналіст — як адзін з нямногіх сфатаграфаваных мною людзей ведаў і разумеў хітрыкі сучаснага свету. Вось, яго будзённы строй з нейкім подлым каментарыем мог бы нарабіць шмат балота ў бедных галоўках, навеяць варожасць. Ды і каму цікава, што ў сваім „бандэраўскім" камуфляжы ён не збіраецца на вайсковы парад, а толькі на свае загоны садзіць бульбу. Такое не змяшчаецца ў сучаснай, затканай прапагандай, галавешцы.

* * *

Менавіта, пра асаблівасць Палесся і мясцовых людзей думаем найперш праз прызму фатаграфій з пачатку XX стагоддзя. Тут на першым месцы першабытныя пабудовы, босыя людзі ў ільняных світках з каўтуном на галаве, мізэрныя пасевы на лясных палетках, худая жывёла на падмоклых лугах. Самы адсталы, беспрасветны закутак Еўропы. Краіна балота, цемрашальства, чараў. Сімвал прыгоншчыны і прыгнёту...

Зусім інačай свой родны куток бачаць туземцы. Яны любяць сваё месца і дзіка сумуюць па лесе, калі лёс кіне іх на чужыну. Іх адчуванне і разуменне свету найбольш трапна і эмпатычна перадаў у фатаграфіі беларускі этнограф Ісак Сербаў. Знакаміты вучоны ў сваёй вандроўцы па Палессі ў 1911-1912 гг. наведаў Марочнае. У той час сяло прыналежала Мінскай губерні і Пінскаму павету. Адміністрацыйная прыналежнасць тут раўназначная нацыянальнасці, даследчык лічыць мясцовых людзей палешукамі-беларусамі, яны аднак не „сакуны", па гаворцы і па выглядзе яны хутчэй падобныя на вялікарусаў. У яго фотакалекцыі знаходзім здымак мясцовых жанчын з пазначаным ростам: *Эва Вайтовіч, 20 гадоў, 2 аршыны і 3 вяршкі. Улляна Багно (Амерыканка) 32 гады, 2 аршыны і 4 вяршкі.* Партрэт марачанскіх жанчын самы дастойны ў цэлай палескай калекцыі Сербава. Старэйшая Улляна гэта асоба дасведчаная, з крытычным поглядам і дыстанцыяй да свету. Яна свядомая сваёй жаночай сілы і магчымасцей. Яе моцныя, спрацаваныя далоні заяўляюць пра спрыт рукадзельніцы. Слушную жаночую фігуру аздабляе ільняная вышываная кашуля, доўгі фартух, прыаздоблены ўзорамі і далікатнымі гафтамі, тканая спадніца да зямлі. Яе простыя строй ззяе святочнай фігурай. Улляна — дбайная гаспадыня, мудрая кабета, стройная маладзіца, з багатай сям'і. Малодшая Эва апранутая ў падобную вышыванку, яе доўгі саян прыаздоблены карункай унізе. Гэтая дробная дэталь падбівае элегантнасць і лёгкасць цэлага строю. Злітая з апошнімі элементамі хустка быццам непрыкметная на галаве. Позірк Эвы яшчэ не згубіў дзявочых мараў і летуценняў. Увагу прыцягваюць рукі спраўнай рукадзельніцы. Эва падобная на Улляну, яна можа быць яе малодшай сястрой. За дзесяць гадоў жанчыны яшчэ больш наблізяцца да сябе выглядам і ментальнасцю, прабʼецца на паверхню іх супольны радавод і сваяцтва, характэрныя палескаму свету.

Шкада, што этнограф не апісаў кулісаў узнікнення гэтага здымка. Ці вышукаў ён жанчын сярод грамады? Можа зрабіў гэты здымак у час царкоўнага фэсту? Ці можа яны пераапрануліся спецыяльна да фатаграфіі? Такія пытанні выклікае пакінутая Сербавым занатоўка пра мясцовае насельніцтва. Характарыстыка, як не дзіўна, добра прыстае да сучасных жыхароў сяла.

*... Мясцовыя палешукі — народ прамысловы, жывы. Акрамя сельскай гаспадаркі і жывёлагадоўлі, яны займаюцца лясным і адыходным промысламі. Шмат якія даўно жывуць у Амерыцы, працуюць на заводах і высылаюць адтуль сваім сем'ям вялікія грошы. Таму народны побыт у гэтым раёне ўжо адхіліўся ў бок гарадскога жыцця. Старажытныя пабудовы, белая світка і намітка сустракаюцца тут як вялікая рэдкасць,* — чытаем у запісках „Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг.", выдадзеных у Вільні ў 1914 годзе.



Баба Ліда, аўтарка і бацюшка Паўло Дубянец





Айцец Паўло і матушка Святлана

* * *

Айцец Паўло без слова агаворкі завярнуў з поля, каб прыслужыцца мне сваімі ведамі і інфармацыяй. Сам ён нарадзіўся ў недалёкім мястэчку Нобель. Яго матушка Святлана прыехала з Беларусі.

— Яна родам з Бярозна, гэта сем кіламетраў ад Грушава, таго самага, дзе жыла польская пісьменніца Марыя Родзевіч, — удакладняе святар, — пад Кобрынам.

— А як вы пазнаёміліся? — пытаю.

— Паміж Марочным і Кобрынам шмат непраходных балот і разліваў, больш за сто кіламетраў ды яшчэ дзяржаўная мяжа.

— Мы вучыліся ў адным часе ў Пінску і якраз тады пазнаёміліся. Мы не ведалі, што Марочнае, таксама належала Генрыху Родзевічу, бацьку Марыі Родзевіч.

Для айца Паўло, даследчыка мясцовых дваранскіх родаў, гэта была прыемная нечаканасць. Штосьці, што застаўляе думаць пра наканаванне.

Зараз у сям'і пяцёра дзяцей, найстарэйшы сын ужо студэнт. Разам з сямейкай жыве баба Ліда, цешча святара.

— Мы забралі яе да сябе, — кажа айцец Паўло, — каб яна не жыла адна.

Бабуля, нягледзячы на гады, быццам пчолка, безупынна нечым занята. Яна паказала мне новыя ходнікі, якія толькі што саткала на кроснах. На плоце сохла яе зялёна-жоўтая радзюжка ў архаічныя ўзоры.

— Вытку адну тканіну і ўжо думаю пра наступную, — прызнаецца баба Ліда. — Сёння таксама буду перарабляць непатрэбнае адзенне і анучы, каб з іх саткаць прыгожы ходнік. Хай будзе ўнукам на памятку!

— А тэлесерыялы вы любіце глядзець па тэлебачанні? — пытаю.

— А ну іх! — катэгарычна пярэчыць бабулька з кіёчкам. — Яны толькі крадуць час. У мяне работы поўна. Трэба ўсе тыя ўзоры з маладосці прыгадаць і выткаць. Калі я гэтага не зраблю, дык ніхто гэтага не зробіць. Усё прападзе. Маладыя ўжо не ўмеюць думаць колішнімі ўзорамі.

Баба Ліда час ад часу вядзе майстаркласы па ткацтве для моладзі. Дзякуючы гэтай прыроднай ткаллі, цягам кароткага часу я пачала адчуваць прысутнасць вытанчанага старажытнага ўзору ў самых нечаканых і грубаватых на вока прадметах і канструкцыях.

Паколькі ўсім падабалася фатаграфаванне, мы рашылі ўвекавечыць нашу — што тут гаварыць — гістарычную сустрэчу. На ёй апынуліся трое прадстаўнікоў польскага, беларускага і ўкраінскага Палесся. У галаве віравала жоўта-зялёная радзюжка бабы Ліды ў архаічныя ўзоры і родная, вясковая хатка з-пад пушчы.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960